№№5–6 (2316–2317)
16 студзеня 2006 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная воля».

Кошт свабодны.

# Народная Воля




*Тыраж папярэдняга нумара "Народнай волі" трое сутак знаходзіўся ў палоне на мяжы з Расійскай Федэрацыяй. Што і казаць, з боем прарываецца газета да чытачоў. Але будзем спадзявацца: загляне сонца і ў наша аконца. А пакуль чакайце чарговы нумар, які магчыма Вы атрымаеце разам з гэтым.*

E-mail: nv@promedia.by
http://nv.promedia.by

ШЧЫРА

## *Ура! Атрымалі!*

Дарагая, любая "Народная воля"! Ведаем, як вам цяжка праз неймаверныя перашкоды прабіваць дарогу слову праўды. Паўсюль яго чакаюць з нецярплівасцю і надзеяй.

Магчыма, не ўсе вашы прыхільнікі паспелі ўжо атрымаць першыя ў новым годзе нумары. А вось наша сям'я спяшаецца падзяліцца радасцю: здвоены № 1—2 "Народнай волі" ў нас у хаце! І знаёмыя вяскоўцы атрымалі! Цяпер чытаем, амаль не адрываючыся.

Мне, немаладому чалавеку, хочацца крычаць "Ура!" і скакаць ад радасці. Дзякуй, дзякуй вам, дарагія народавольцы, за рупнасць і мужнасць, за непахісную стойкасць у барацьбе за светлы дзень нашай Радзімы. Толькі разам запалім свет над роднай зямлёй!

**Кірыла Мікітавіч ГЕЙЗЕРАЎ,**
**жыхар вёскі Запруддзе Горацкага раёна.**

# Аблава ў Салігорску

*У нядаўнім інтэрв'ю расійскім журналістам А.Лукашэнка сказаў, што недзяржаўныя СМІ ў Беларусі ніхто не прэсінгуе. І што ніякага праследу іншадумства ў краіне няма.*

*Мы пакінем гэтыя пасажы на сумленні Аляксандра Рыгоравіча, але раскажам вам, паважаныя чытачы, наступную гісторыю.*

Калі памятаеце, у снежні мінулага года на старонках "Народнай волі" быў надрукаваны спіс прозвішчаў салігарчан, якія адкрыта выступілі ў падтрымку нашай газеты. Людзі абураліся тым, што ім не даюць свабодна набыць "Народную волю" ў шапіках, а таксама выпісаць выданне на першае паўгоддзе 2006 года.

Днямі ў Салігорску распачалася сапраўдная аблава на тых, хто падпісаў ліст у падтрымку газеты. Міліцыя правярае сапраўднасць подпісаў пад лістом у абарону газеты. Супрацоўнікі міліцыі распачалі абыход кватэр, дзе жывуць падпісанты. Вось што расказала **Надзея КРАЎЧЭНЯ**: *"Міліцыя прыйшла да мяне ў кватэру. Спыталіся, ці падпісвалася я пад калектыўным лістом? Я кажу, што так, падпісвалася за "Народную волю. Я не адмаўляюся. Кажуць: "Пішыце тлумачэнне". Але я адказала, што не буду пісаць ніякага тлумачэння".*

А вось што расказаў журналісту "Народнай волі" адзін з актывістаў дэмакратычнага руху з Салігорска **Аляксандр ЦЭЦУРА**: *"Па нашых звестках, міліцыя абышла практычна ўсіх, хто падпісаў той ліст. Усіх прасілі пісаць тлумачэнні. Паказальна, што пакуль ніхто не адмовіўся ад таго, што падпісваў ліст у падтрымку "Народнай волі".*

*Калі мы прыйшлі да гарадскога міліцэйскага начальства з просьбай патлумачыць, чым абумоўлены такія дзеянні міліцыі, то нам нічога зразумелага не адказалі. Паведамілі толькі, што ўчастковыя знаёмяцца з жыхарамі сваіх участкаў. Але, пагадзіцеся, спосаб даволі дзіўны".*

Юрыст **Гары ПАГАНЯЙЛА** сцвярджае, што дзеянні салігорскіх міліцыянераў незаконныя: *"Тое, што адбылося ў Салігорску, у межы закона ніяк не ўпісваецца. Падпісваць калектыўныя лісты — асабістая справа кожнага грамадзяніна. Ціск, які аказваецца на падпісантаў ліста ў "Народную волю", ніякіх юрыдычных падстаў пад сабой не мае — гэта ўмяшальніцтва ў прыватнае жыццё, парушэнне правоў чалавека...".*

Мы, аднак, не выключаем, што міліцыя Салігорска спрабуе знайсці людзей, якія адмовяцца ад сваіх подпісаў пад лістом у абарону "Народнай волі". І тады можа паўтарыцца гісторыя, якую мы ўжо назіралі пасля таго, як па просьбе экс-рэктара Беларускага дзяржаўнага універсітэта, прафесара А.Казуліна газета надрукавала спісы у падтрымку ствараемага руху "Воля народа". Суды, папярэджанні, спроба задушыць газету штрафамі.

Брудныя гэта гульні, спадары начальнікі!

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**
**Фота photo.bymedia.net**



*Падчас адной з акцый ў падтрымку газеты "Народная воля".*

З НАТУРЫ

## *Што паказала сустрэча са зборшчыкам подпісаў за Лукашэнку*

**Днямі ў рэдакцыі пачуўся званок. Чалавек скардзіўся, што яго прымушаюць збіраць подпісы за Лукашэнку, і прасіў сустрэчы з карэспандэнтам. Хутка мы спаткаліся. Наш суразмоўца прасіў не называць яго прозвішча, месца працы і збору подпісаў, бо ўцечка такой інфармацыі, па яго словах, можа выклікаць для яго нямала праблем.**

Працуе ён у адной з жыллёва-эксплуатацыйных кантор Мінска. Па яго інфармацыі, работнікам канторы даручана сабраць па некалькі сотнць подпісаў за Лукашэнку. Гэтым прыходзіцца шмат займацца, бо кіраўніцтва пагражае зменшыць заробак тым, хто не выканае даведзенае заданне па подпісах.

Ён прапанаваў стаць сведкам яго працы па зборы подпісаў за Лукашэнку. І вось мы накіроўваемся ў першы пад'езд пяціпавярховага жылога дома.

Калі ішлі да яго, падумалася: "Навошта ўладзе скарыстоўваць такія метады? Было ж сказана, што ініцыятыўная група па зборы подпісаў за Лукашэнку налічвае тысячы чалавек. Так што яна без праблем можа вырашыць пастаўленую задачу".

Аднак гутаркі зборшчыка з жыхарамі дома на многае адкрылі вочы. У пад'ездзе адчынілі дзверы нашаму зборшчыку гаспадары шасці кватэр. За Лукашэнку паставіў подпіс толькі адзін чалавек. Астатнія адмовіліся, гаворачы пры гэтым: а)" я яшчэ не вырашыла за каго"; б)"палітыкай не займаюся"; в) "яшчэ падумаю"; г) "адчапіцеся, няма калі"...

Мой суразмоўца сказаў, што такі малюнак амаль паўсюдна.

Так што рэйтынг Лукашэнкі ў тым мікраеёне Мінска, можна прагназаваць, недзе ў межах 16—17 працэнтаў. Вядома, пры такім настроі электарату сабраць патрэбную колькасць подпісаў няпроста. Напэўна, таму і вырашылі дзенідзе націснуць на падобны адміністрацыйны рычаг, каб выратаваць становішча.

Думаецца, такім макарам плануюць, як кажуць, "забіць і другога зайца" — сабраць як мага больш подпісаў за Лукашэнку. Потым будуць выхваляцца: "Во як народ любіць Аляксандра Рыгоравіча". Да таго ж гэта можа стаць добрай шырмай ці прапагандысцкім забеспячэннем магчымай фальсіфікацыі вынікаў выбараў.

**Сцяпан ВЕРАС.**

КАДРЫ

## *Крыху пасунулі*

**Чарговыя кадравыя перастаноўкі ў вышэйшым эшалоне ўлады.**

**Мікалай ІВАНЧАНКА** вызвалены ад пасады намесніка кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта і прызначаны памочнікам прэзідэнта — галоўным інспектарам па Мінскай вобласці.

**Алег ПРАЛЯСКОЎСКІ**, які быў вызвалены ад пасады намесніка кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта яшчэ 4 студзеня, прызначаны памочнікам прэзідэнта — начальнікам галоўнага ідэалагічнага ўпраўлення Адміністрацыі прэзідэнта.

**Уладзімір СІНЯКОЎ** вызвалены ад пасады памочніка прэзідэнта — галоўнага інспектара па Мінскай вобласці. Кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта Генадзь Нявыглас прызначыў яго начальнікам галоўнага ўпраўлення кадравай палітыкі Адміністрацыі прэзідэнта.

**Ул.інф.**

## *Замест Булахава — Гаркун*

У Выканаўчы камітэт Садружнасці незалежных дзяржаў у Мінску паступіў ліст за подпісам кіраўніка беларускага ўрада **Сяргея СІДОРСКАГА**, у якім ён прадстаўляе на пасаду першага намесніка старшыні Выканкама СНД **Уладзіміра ГАРКУНА**.

У сістэме органаў Садружнасці гэтая пасада з'яўляецца квотнай і замацавана за Беларуссю. Ліст адрасаваны старшыні Выканаўчага камітэта — выканаўчаму сакратару СНД **Уладзіміру РУШАЙЛУ**.

Як паведамілі БелаПАН у штаб-кватэры арганізацыі, фармальна кандыдатура новага першага намесніка старшыні Выканкама павінна быць зацверджана на пасяджэнні Савета кіраўнікоў урадаў краін СНД. Плануецца, што гэта адбудзецца 21 мая. Да гэтага тэрміну Уладзімір Гаркун будзе выканаўцам абавязкаў першага намесніка.

У жніўні 2005 года з пасады першага намесніка старшыні Выканаўчага камітэта Садружнасці быў адкліканы **Дзмітрый БУЛАХАЎ**, які працаваў у органах СНД з 2000 года.

Нагадаем, што Уладзімір Гаркун з 15 кастрычніка 1998 года па 3 студзеня 2005 года з'яўляўся Надзвычайным і Паўнамоцным паслом Рэспублікі Беларусь у Літоўскай Рэспубліцы.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

ДЗІКУНСТВА

## *У Гродне прайшоў марш скінхедаў. Ёсць пацярпелыя*

**У Гродне прайшоў марш скінхедаў, якія збілі некалькі чалавек. Пра гэта паведаміў БелаПАН адзін з пацярпелых Мікіта Паўроз.**

Паводле яго слоў, каля 30 чалавек, выкрыкваючы нецэнзурныя лозунгі ў адрас антыфашысцкага руху Беларусі і з воклічамі "Хайль Гітлер!" прайшлі вечарам па цэнтры горада. На цэнтральнай плошчы Гродна М.Паўроз сустрэўся з гэтымі людзьмі і зрабіў ім заўвагу, пасля чаго яго збілі. Паводле яго слоў, людзі, якія напалі на яго, склалі арганізаваную калону, але са з'яўленнем міліцыі ўцяклі. *"Міліцыя не паспела нікога затрымаць. На маёй памяці гэта першае шэсце скінхедаў і неафашыстаў за апошнія пяць гадоў"*, — сказаў М.Паўроз.

Як паведаміў БелаПАН гродзенскі журналіст Андрэй Пачобут, у апошні час радыкальныя неанацысцкія групоўкі ў Гродне актывізуюцца. *"Пачалі з'яўляцца графіці неанацысцкага кірунку, якіх не было бачна ўжо даўно. Відавочна, што гэта была падрыхтоўка да акцыі"*, — лічыць А.Пачобут.

**Сяргей ПУЛЬША,**
**БелаПАН.**

ПАЛІТКУХНЯ

# Твой подпіс — твой выбар

*У рэдакцыю амаль увесь час тэлефануюць людзі, якія кажуць, што іх прымушаюць паставіць свой подпіс у падтрымку Аляксандра Лукашэнкі.*

Так, супрацоўнікі аднаго буйнога сталічнага універсама расказалі, што падчас атрымання заробку ім прапанавалі паставіць адразу два аўтографы: адзін — у бухгалтарскай ведамасці, а другі — у падпісным лісце. Прычым прапаноўвалі падпісацца толькі за **Аляксандра Лукашэнку**, а не, скажам, за таго ж **Аляксандра Мілінкевіча** ці **Валерыя Фралова.** Тым, хто адмаўляўся пісьмова падтрымаць Аляксандра Рыгоравіча, пагражалі затрымаць заробак.

Адзін з наведвальнікаў рэдакцыі распавёў, што калі ён прыйшоў у паліклініку Мінска закрываць бальнічны ліст, тэрапеўт моўчкі працягнула яму падпісны ліст за Лукашэнку. Калі мужчына абурыўся, доктар сказала, што ёй загадалі збіраць подпісы за Аляксандра Рыгоравіча.

Няспынна тэлефануюць людзі і праваабаронцам былога цэнтра "Вясна". Так, студэнт 4-га курса юрыдычнага факультэта Беларускага інстытута правазнаўства (недзяржаўная ўстанова адукацыі) паведаміў, што метадыст дэканата падыходзіў да студэнтаў падчас здачы іспыту і папярэджваў, што дзеля добрай вучобы яны павінны паставіць свае подпісы ў падтрымку Лукашэнкі. Акрамя таго, студэнтам гаварылі, каб яны прыходзілі на іспыты з пашпартам. А аднаму студэнту, па яго-ных словах, накіраванне на пераздачу іспыту ў дэканаце выдалі толькі пасля таго, як ён падпісаўся за Лукашэнку.

Сайт "Хартыі-97" днямі надрукаваў ліст ад студэнтаў механіка-матэматычнага факультэта Белдзяржуніверсітэта. *"Мы пацвярджаем, што на многіх факультэтах пад прымусам збіраюць подпісы за Лукашэнку,* — пішуць студэнты. — *Асабліва цяжка ў гэтыя дні даводзіцца тым, хто жыве ў інтэрнаце — ім намякаюць, што, калі не падпішуцца, могуць узнікнуць праблемы з жытлом".*

Па інфармацыі Радыё Свабода, выкладчыкаў педагагічнага каледжа таксама наўпрост абавязалі прыходзіць з пашпартамі да зборшчыка подпісаў за Лукашэнку. А калі яны не жадаюць гэтага рабіць, то павінны ўсё роўна падысці да яго і паведаміць пра гэта, незалежна ад таго, збіраюцца ці не збіраюцца ставіць свой подпіс. Людзі абураюцца, але падпісваюцца, бо баяцца, што з імі не працягнуць кантракт.

На многіх прадпрыемствах краіны таксама ультыматыўна раяць падпісвацца толькі за Лукашэнку. Прычым подпісы збіраюць у працоўны час, што парушае заканадаўства. Рэдакцыйныя тэлефоны літаральна разрываюцца ад такіх паведамленняў.

Агітуюць за Лукашэнку і дэпутаты Палаты прадстаўнікоў. Амаль увесь студзень, згодна з графікам працы на месяц, парламентарыі працуюць у сваіх выбарчых акругах. Некаторыя ходзяць па кватэрах выбаршчыкаў і прапануюць падпісацца за "правадыра".

Пра факты запалохвання, шантажу і пагроз падчас збору подпісаў за А.Лукашэнку "Народная воля" паведаміла сакратару Цэнтрвыбаркама.

*"Ніхто нікога не мае права прымушаць!* — даволі катэгарычна заявіў Мікалай Лазавік. — *Чалавек павінен сам зрабіць свой выбар — падпісацца ці не падпісацца. А я звычайна яшчэ гавару, што тыя, хто прымушае ставіць подпіс у падтрымку нейкага прэтэндэнта, працуюць зусім не на таго прэтэндэнта, а хутчэй за усё, супраць яго. Бо той, каго прымусілі падпісацца, у дзень выбараў зробіць зусім іншую адзнаку ў бюлетэні. Прымус, шантаж, пагрозы — гэта даволі непрадуктыўная форма дзейнасці падчас выбараў. І гэта парушэнне выбарчага заканадаўства. Я перакананы: выбары павінны быць вольнымі, і грамадзяне павінны самі вырашаць, за каго падпісвацца і за каго галасаваць.*

*Што тычыцца студэнтаў, то яны такія ж грамадзяне, як і мы з вамі. І правы ў іх такія ж самыя. Іх ніхто не мае права прымушаць падпісвацца. У сваіх апошніх паездках па краіне я звяртаў увагу на тое, што такія дзеянні, як прымус, можна разглядаць як правакацыйныя. А калі такім чынам збіраюць подпісы за Лукашэнку, то там ужо, напэўна, у некалькі дзесяткаў разоў больш сабрана подпісаў, чым патрабуецца па законе..."*

Гэта і не дзіўна, што, па інфармацыі Лазавіка, А.Лукашэнка ў *"некалькі дзесяткаў разоў"* апярэджвае сваіх канкурэнтаў па зборы подпісаў. Даўно кажуць пра тое, што Аляксандр Рыгоравіч прадставіць у Цэнтрвыбаркам прыкладна каля мільёна подпісаў, а можа, і таго больш. Каб лішні раз прадэманстраваць, як падтрымліваюць яго простыя людзі. Але хто дасць стопрацэнтную гарантыю, што правяраць лукашэнкаўскія спісы будуць не скрозь пальцы, а гэтак жа скрупулёзна, як спісы, прадстаўленыя **Зянонам Пазьняком** альбо тым жа *Аляксандрам Мілінкевічам*?

І наогул, хто ўспомніць, пад якім прымусам многія людзі ставілі свае подпісы ў падтрымку таго ж А.Лукашэнкі.

**Бажэна ЯНТАРОВА.**

ГРОМКОЕ ДЕЛО

# Мыльная опера в таможенном исполнении

## *На этот раз перед судом предстанут 30 человек*

*В Прокуратуре республики подошло к завершению расследование второй части громкого уголовного дела, связанного с функционированием в Беларуси преступной организации, руководимой теперь уже бывшим начальником Управления организации таможенного контроля Государственного таможенного комитета* ***Сергеем ДМИТРИЕВЫМ****. Полгода назад Белорусский военный суд уже выносил приговор ему и еще 15 другим обвиняемым. Теперь перед судом предстанут уже 30 человек. Новый судебно-таможенный сериал обещает быть еще более длительным, чем первый.*

Приговор в отношении Сергея Дмитриева был вынесен судом в июле нынешнего года. Он был признан виновным в совершении преступлений по ч.3 ст.285 (создание преступной организации, совершенное должностным лицом с использованием своих служебных полномочий), ч.3 ст.430 (получение взятки) и ч.3 ст.424 (злоупотребление властью или служебными полномочиями) УК Республики Беларусь. Все эти деяния потянули на 13 лет лишения свободы с конфискацией имущества.

Как установил суд, в июне 2001 года Сергей Дмитриев создал преступную организацию, объединив в ее составе организованные группы из числа сотрудников Минской региональной таможни и коммерческих структур. В Беларуси это была первая преступная организация, которой руководил чиновник такого высокого ранга. Численность ее тоже впечатляла. По подсчетам следователей, в общей сложности в незаконной деятельности организации участвовало около 45 человек. На первом разбирательстве к ответственности были привлечены лишь 16 из них.

В суде было доказано, что Дмитриев руководил преступной организацией со дня назначения на должность начальника управления в 2001 году и вплоть до своего ареста в 2003 году. Организация занималась незаконными поставками в Беларусь бумаги, шкур крупного рогатого скота и кожевенных полуфабрикатов, а также кофе и шоколада. Ущерб, нанесенный государству, составил более 2,3 млрд. рублей.

В отличие от первого судебного разбирательства, на этот раз перед Фемидой предстанут 30 человек. В БВС уже сегодня ломают голову, как вместить в небольшом зале такое огромное количество обвиняемых, их охраны, защитников, родственников и прессы. Не исключено, что рассмотрение будет выездным и пройдет в более просторном помещении сторонней организации. Например, сегодня в ГТК рассматривается вариант проведения вторых слушаний по делу Дмитриева в новом здании центрального аппарата таможни. По мнению одного из инициаторов этой идеи, показательный процесс должен оказать воспитательное воздействие на таможенников. Правда, замысел проведения слушаний в ГТК не нашел необходимой поддержки. Говорят, против этой идеи категорически высказался председатель ГТК **Александр Шпилевский**. Если это так, то поступил он, безусловно, мудро. Еще неизвестно, чем бы кончился процесс, если бы на слушания в массовом порядке повалили таможенники. На первое разбирательство приходили несколько человек, которые высказывали в перерывах весьма негативные оценки происходящего, но их быстро отсекли от процесса.

На втором рассмотрении скандального дела Сергей Дмитриев опять станет центральной фигурой. На скамье подсудимых окажутся также еще около десятка бывших сотрудников таможни и служащих других госорганов. Рядом сядут и бизнесмены, которые вели в Беларуси бизнес при помощи команды Сергея Дмитриева. Обвинения те же: создание и участие в преступной организации, получение и дача крупных взяток, уклонение от уплаты таможенных платежей, злоупотребление властью или служебными полномочиями, подделка документов, служебный подлог и т.д. Несмотря на увеличившееся количество обвиняемых, сумма нанесенного государству ущерба уменьшилась вдвое и составила чуть более одного миллиарда рублей. Планируется, что уже с начала февраля 30 обвиняемых начнут знакомство с обширными материалами дела, которые составляют около 150 томов. По закону на это отводится один месяц, то есть в марте дело должно будет направлено в суд. Однако учитывая небывалое количество обвиняемых, скорее всего знакомство с материалами дела затянется на несколько месяцев.

Следует отметить, что Сергей Дмитриев был, судя по некоторой информации, правой рукой председателя ГТК Александра Шпилевского и его арест, произошедший в марте 2003 года, вызвал в таможне настоящую бурю. Тогда многие утверждали, что время Шпилевского в таможне прошло, но, как оказалось, они ошибались. Даже противники председателя ГТК, открыто использовавшие факт ареста Дмитриева и его последующее осуждение, не смогли пошатнуть репутацию Шпилевского в глазах Александра Лукашенко. Разве что на короткое время. Кстати, разгон, который устроил таможне в конце октября 2005 года Александр Лукашенко, во многом был основан на фактах из данного уголовного дела. Правда, что удивительно, предоставил их главе государства не генеральный прокурор, а первый заместитель председателя ГТК **Иван Авин**. Однако начатую войну, он, судя по всему, проиграл. Перед самым Новым годам президент подписал указ о назначении Ивана Авина членом Совета республики НС Республики Беларусь. В сообщении пресс-службы главы государства говорилось только о назначении, однако, в том же указе было указано и об освобождении Авина от должности первого заместителя председателя ГТК.

**Сергей САЦУК.**

АФІЦЫЙНА

## *Лукашэнка і Пуцін сустрэнуцца 24 студзеня*

Плануецца, што чарговае пасяджэнне Вышэйшага дзяржаўнага савета Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі пройдзе ў Санкт-Пецярбургу 24 студзеня. Пра гэта паведаміў кіраўнік мінскага прадстаўніцтва пастаяннага камітэта **Васіль ШАЛАДОНАЎ**.

Паводле яго слоў, у праект парадку дня на сёння ўключана 12 пытанняў. Асноўныя з іх — аб стане работы па падрыхтоўцы Канстытуцыйнага акта, аб гатоўнасці да падпісання пагадненняў аб забеспячэнні роўных правоў грамадзян дзвюх дзяржаў, аб праекце бюджэту Саюзнай дзяржавы на 2006 год, аб узгодненых дзеяннях у галіне знешняй палітыкі, аб унясенні змяненняў у праграму абуладкавання знешняй мяжы Саюзнай дзяржавы на 2002—2005 гады з працягам яе дзеяння на 2006 год, аб прысуджэнні прэмій Саюзнай дзяржавы ў галіне літаратуры і мастацтва за 2005 год.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

ПРОТЕСТ

# Заявление

## академика Александра ВОЙТОВИЧА

Продолжается официально объявленная кампания по выборам президента страны.

Центральной комиссией по выборам и проведению республиканских референдумов зарегистрированы 8 инициативных групп по сбору подписей избирателей в поддержку претендентов для выдвижения их кандидатами в Президенты Республики Беларусь. В том числе зарегистрирована и инициативная группа А.Г.Лукашенко, который вновь намеревается продлить сроки своих президентских полномочий.

Образованы областные, городские и районные комиссии по выборам. В состав этих комиссий фактически не включены представители претендентов, независимых от нынешней власти. Власть боится и выбора народа, и честных выборов в соответствии с законом. О последнем откровенно сказала председатель Центризбиркома, заявив во время регистрации инициативных групп, что при проведении выборов основным является политическое решение вопроса, а его юридический аспект — дело второстепенное.

Вопреки Конституции никто из претендентов, кроме А.Г.Лукашенко, не получает доступа к государственным средствам информации, которые, в нарушение Избирательного кодекса, уже приступили к масштабной агитационной кампании за избрание А.Г.Лукашенко президентом страны на новый срок. Независимые же средства информации в стране фактически уничтожены, что антиконституционно. Власть боится правды, боится слышать мнения людей, продолжая регулярно, прямо и косвенно, их обманывать.

А.Г.Лукашенко снова говорит об очередной "элегантной победе", а его заявление в адрес избирателей: *"проголосуете за меня, куда вы денетесь"* показывает, каким образом власти намерены проводить выборы.

В 2004 году при проведении референдума и выборов в депутаты Палаты представителей гражданской инициативой "За справедливые выборы", работу которой я координировал, а также другими наблюдателями было зафиксировано огромное число серьезных нарушений. Объявленные результаты выборов не соответствовали волеизъявлению избирателей. Проведение избирательной кампании в этом году показывает, что ситуация повторяется и выборов фактически не будет.

Свое согласие на участие в президентских выборах я дал, исходя из имеющегося опыта работы президентом Академии наук и председателем Совета Республики Национального собрания Беларуси, желая получить более широкие возможности для работы по восстановлению в стране законности и донесения до белорусского народа своего видения путей улучшения благосостояния людей.

Инициативная группа по выдвижению моей кандидатуры на пост президента Республики Беларусь 29 декабря прошлого года приступила к сбору подписей граждан. Во время сбора подписей члены инициативной группы столкнулись с неприятием гражданами нашей страны реалий предстоящих выборов. Люди требовали ответов на следующие вопросы:

**— Имеет ли А.Г.Лукашенко право на продление своих президентских полномочий?**

**— На каком основании президент подчинил себе всю власть в стране, практически все средства информации, которые он использует для собственной избирательной кампании и информационной войны против своих оппонентов?**

**— Почему А.Г.Лукашенко заявляет, что народ обязательно проголосует за него, и не скрывает, что уже сейчас знает результат выборов?**

**— Будут ли привлечены к ответственности чиновники, создавшие в стране систему, в которой мнение граждан игнорируется, а результат выборов определен заранее?**

Вопросы, которые задают избиратели, показывают, что люди понимают, что выборов, по сути, не будет, а вся избирательная кампания сводится лишь к приданию видимости законности третьего срока президентства А.Г.Лукашенко.

Как стало известно, в эфире российской радиостанции "Эхо Москвы" прозвучало заявление официального представителя "Газпрома" о том, что А.Г.Лукашенко инициировал переговоры по "Белтрансгазу" и что "сейчас решается вопрос о возможности перехода "Белтрансгаза" под контроль "Газпрома". Если "Белтрансгаз" будет передан, то Беларусь фактически заплатит за газ в 2006 году не по широко разрекламированной цене в 46,68 USD, а по гораздо большей. Из этого можно сделать вывод, что А.Г.Лукашенко ради удовлетворения своих амбиций и получения поддержки своего третьего срока президентства готов втайне от народа, что антиконституционно, самолично распоряжаться ценнейшей общенародной собственностью.

Исходя из вышеизложенного:

**— заявляю свое решительное НЕТ действиям А.Г.Лукашенко, направленным на удовлетворение своих властных амбиций и нарушение Конституции страны;**

**— признаю единственным источником государственной власти и носителем суверенитета Беларуси только ее народ и категорически возражаю против единоличного распоряжения национальным достоянием страны втайне от народа;**

**— не желаю способствовать созданию иллюзий у избирателей, что участие А.Г.Лукашенко в выборах на третий срок президентства законно и что выборы проводятся в соответствии с Конституцией и Избирательным кодексом страны;**

**— принимаю решение прекратить свое дальнейшее участие в кампании, проводимой властями под видом президентских выборов;**

**— заявляю, что буду продолжать активную политическую деятельность, продолжать говорить людям правду, продолжать бороться за верховенство закона и работать на будущее страны и ее граждан;**

**— убежден, что и без президентства Лукашенко Беларусь останется независимой, мирной и стабильной страной, а ее народ будет жить богаче и с большей уверенностью в завтрашнем дне, без страха и лжи.**

Сердечно благодарю всех членов моей команды, всех граждан, не побоявшихся войти в мою инициативную группу, а также тысячи тех избирателей, которые уже поставили свои подписи в подписных листах в мою поддержку для выдвижения кандидатом в президенты Республики Беларусь.

В очередной раз призываю А.Г.Лукашенко восстановить конституционную законность, отказаться во имя будущего Беларуси, ее народа от своих незаконных претензий и прекратить свое участие в выборах, доработать до конца свой второй срок президентства и провести в соответствии с Конституцией действительно свободные и открытые выборы нового президента страны.

Народ Беларуси достоин и должен жить богаче, свободнее и счастливее!

ІНФАЛІНІЯ

## *Польшча пачынае вяшчанне на Беларусь*

**Незалежнае радыёвяшчанне з Польшчы на Беларусь будзе арганізавана на сярэдніх і ультракароткіх хвалях. Пра гэта паведаміла польская "Газета выборча".**

Мяркуецца, што сігнал на ультракароткіх хвалях можна будзе прымаць на большай частцы Заходняй Беларусі. Радыёстанцыю плануецца стварыць пры падтрымцы прадстаўнікоў беларускай нацменшасці ў Польшчы.

Дарэчы, у Беластоку прайшла сустрэча прэм'ерміністра Казімежа Марцінкевіча з адзіным прэтэндэнтам на пасаду прэзідэнта Беларусі ад аб'яднанай апазіцыі Аляксандрам Мілінкевічам. Польскі прэм'ер прыбыў у Падляскае ваяводства для ўдзелу ў сустрэчы з мясцовымі ўладамі, прадстаўнікамі рэлігійных аб'яднанняў, кіраўнікамі арганізацый нацыянальных меншасцяў. Мілінкевіч прыехаў у Беласток для сустрэчы з беларусамі, якія жывуць у гэтым рэгіёне, і каб павіншаваць іх з Божым Нараджэннем.

**Дзмітрый УЛАСАЎ.**

ЗАКУЛИСЬЕ

## Ермошина проговорилась?

*"У нас в 2006 году будут проходить две избирательные кампании, и их нужно было максимально разорвать по времени", — заявила председатель Центризбиркома Беларуси Лидия Ермошина в интервью газете "Звязда" 28 декабря, комментируя назначение выборов президента Беларуси на 19 марта 2006 года. Какой будет вторая избирательная кампания, Ермошина не уточнила, а корреспонденты газеты у нее об этом не спросили. Тем не менее, поскольку в Беларуси парламентские выборы или выборы в местные Советы в 2006 году проходить не будут, остается один возможный вариант — проведение референдума по Конституционному акту так называемого "союзного государства" России и Беларуси.*



Примечательно, что за пару дней до интервью Лидии Ермошиной глава ЦИК России Александр Вешняков заявил, что проведение в 2006 году референдума по Конституционному акту "союзного государства" России и Беларуси возможно, но маловероятно.

*"На мой взгляд, ожидать возможность проведения референдума по принятию Конституционного акта "союзного государства" России и Беларуси в 2006 году можно, но всего вероятнее, это не состоится"*, — сказал А.Вешняков на пресс-конференции в центральном офисе "Интерфакса" в Москве.

При этом он обратил внимание на предстоящие выборы президента Беларуси, которые намечены на 19 марта. *"Нужно иметь в виду, что в Беларуси дан старт избирательной кампании по выборам президента, — сообщил Вешняков. — Совмещать подготовку и проведение референдума с выборами президента неразумно".*

Он напомнил, что проект Конституционного акта должен быть рассмотрен Высшим Государственным советом "союза" России и Беларуси. *"Такой Высший Государственный совет намечался еще в ноябре, потом переносился на декабрь. Теперь есть информация, что он перенесен на январь 2006 года"*, — сказал глава ЦИК.

А.Вешняков отметил, что в случае, если на заседании Высшего Госсовета "союза" России и Беларуси к проекту Конституционного акта будут замечания, то на доработку документа уйдет дополнительное время.

**Соб.инф.**

ЛІКБЕЗ

# Справядлівасць і свабода заўжды былі векавой марай лепшых сыноў нашай Бацькаўшчыны

**Анатоль ЛЯЎКОВІЧ,**
*першы намеснік старшыні Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада), кандыдат філасофскіх навук, дацэнт*

### Самы гуманны дакумент XX стагоддзя

Нядаўна сусветная супольнасць адзначыла 57-годдзе Усеагульнай Дэкларацыі правоў чалавека.

Як нараджаўся гэты важнейшы дакумент?

Гэта адбылося ў Парыжы 10 снежня 1948 года. Першая ледзі свету, удава прэзідэнта ЗША Франкліна Рузвельта, старшыня камісіі ААН па правах чалавека Элеанора Рузвельт урачыста абвясціла: "Сёння мы стаім на парозе вялікай падзеі ў жыцці чалавецтва — на парозе зацвярджэння Генеральнай Асамблеяй Усеагульнай Дэкларацыі правоў чалавека".

Дэкларацыя — самы гуманны дакумент XX стагоддзя і самае вялікае дасягненне чалавецтва за ўсю гісторыю яго існавання ў справе прызнання годнасці, свабоды і правоў асобы.

### Сутнасць сучаснай канцэпцыі правоў чалавека

Правы і свабоды нікім чалавеку не даюцца, як гэта лічылася раней. Яны належаць яму па факце нараджэння і з'яўляюцца неад'емнымі. У гэтым сутнасць сучаснай канцэпцыі правоў чалавека. Чалавек без правоў — раб, які ўмее толькі прыніжацца і прасіць. Патрабаваць і дабівацца здольная толькі свабодная асоба, якая добра ведае і ўмее адстойваць свае правы.

### Важнейшы крок чалавецтва

З сярэдзіны XX стагоддзя чалавецтва ўступіла ў эпоху глабальнага існавання. Глабалізацыя, дэманструючы сабой сцверджанае адзінства Космасу, уцягвае ў сваю арбіту ўсе краіны і рэгіёны свету. Натуральна гэта патрабуе адзіных агульначалавечых прынцыпаў і правіл паводзін. Таму з пачаткам глабалізацыі аднначасова прымаецца Усеагульная дэкларацыя правоў чалавека. Супадзенне зусім не выпадковае, а, наадварот, неабходнае і заканамернае. У эпоху глабалізацыі, дзеля захавання адзінага чалавечага соцыуму, патрэбна жыць па адзіных універсальных правілах. Прыняцце Дэкларацыі — гэта важнейшы крок чалавецтва ў гэтым накірунку.

### Агульначалавечая аксіёма сучаснага глабальнага свету

Валоданне сваімі неад'емнымі правамі і свабодамі выступае перадумовай умацавання бяспечнага свету на планеце. У сваю чаргу бяспечны свет з'яўляецца асновай правоў і свабод чалавека. Такім чынам, бяспечны свет, правы і свабоды з'яўляюцца камплiментарнымі (дапаўняльнымі). Яны не могуць устойліва існаваць адно без аднаго. Гэта агульначалавечая аксіёма сучаснага глабальнага свету.

### Правы чалавека становяцца глабальнай праблемай

У сучасным свеце, у якім усе мы з'яўляемся камандай аднаго карабля, правы чалавека становяцца глабальнай праблемай. Гэта патрабуе прасоўваць і адстойваць іх па ўсім свеце, прымушае весці барацьбу з дыктатарскімі і таталітарнымі рэжымамі ў любым кутку планеты. Вось чаму ў адрас беларускага ўрада, які парушае правы і свабоды грамадзян, правамоцна гучыць крытыка з боку дэмакратычнай міжнароднай супольнасці.

### Жорстка прэсінгуе дзяржава

Парушэнні правоў і свабод назіраюцца ва ўсім свеце, нават у краінах з устойлівай дэмакратыяй. Таму там ствараюцца і існуюць розныя праваабарончыя арганізацыі і інстытуты.

У пастсавецкай Беларусі можна гаварыць толькі пра парасткі развіцця грамадзянскіх ініцыятыў у сферы абароны правоў чалавека, якія жорстка прэсінгуе дзяржава. З вядомых праваабарончых арганізацый сёння ўцалелі і афіцыйна існуюць усяго дзве — РГА "Беларускі Хельсінкскі камітэт" і ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў".

### Культ барацьбы, сілавога ціску і арыенцір на канфрантацыю

У Беларусі супярэчнасці паміж чалавекам і ўладай час ад часу абвастраюцца да сілавога супрацьстаяння (арышты мітынгуючых, разгон пікетаў і г.д.). Рэжым выціскае з грамадскага жыцця магчымасць свабоднага выбару, пераследуе іншадумства. Для яго характэрны культ барацьбы, сілавога ціску і арыенцір на канфрантацыю. Карпарацыя вертыкальнай улады нахабна навязвае грамадству свае "правілы гульні", папіраючы правы і свабоды грамадзян. Знікаюць вядомыя людзі. Насаджаецца атмасфера страху. СМІ даўно манапалізаваны дзяржавай, а дзяржава манапалізавана правіцелем.

### Пераходны (транзітны) перыяд у Беларусі расцягнуўся болей чым на дзесяцігоддзе і працякае вельмі балюча і хваравіта

На змену бальшавіцкаму прыйшоў рэжым "пашклоўскі". Аднаўлена дзяржаўная ідэалогія. Культывуецца прававы нігілізм — непавага да права ўвогуле і да правоў асобы. Рэжымам зноў запатрабаваны "гома савецікус", якога ў свой час бальшавікі так "умылі", што ён на генетычным узроўні засвоіў: лепей не мець сваёй уласнай пазіцыі (акрамя лініі партыі, альбо правадыра). Сёння "савецкі беларус", які вызначаецца непаўторнасцю свайго менталітэту ("што я магу?), дзіўным чынам сумяшчае ў сабе жаданне жыць "па-новаму" з жаданнем жыць "па-старому", "па-савецкі". Яму хочацца жыць лепей, але самому мяняцца не хочацца. Таму яго лёгка вярнулі зноў за калючку, за дрот. І менавіта таму пераходны (транзітны) перыяд у Беларусі расцягнуўся болей чым на дзесяцігоддзе і працякае балюча і хваравіта.

### Неабходна такая базавая каштоўнасць, якая можа кансалідаваць расколатае беларускае грамадства

Гістарычны вопыт і вопыт суседзяў паказвае, што крызіс транзітнага (пераходнага) грамадства можа быць ліквідаваны толькі на аснове аб'яднаўчых прынцыпаў: дэмакратыя, правы і свабоды чалавека, рынначная эканоміка, сацыяльная абароненасць. Перадумовай паспяховага транзіту з'яўляецца існаванне кансенсусу па гэтых універсальных прынцыпах. Аднак у крызіснай свядомасці беларускага грамадства (і галоўнае ў мазгах яе кіруючай эліты) гэтага не назіраецца. Відавочна, што ў гэтых умовах неабходна такая базавая каштоўнасць, якая можа кансалідаваць расколатае беларускае грамадства. Такой каштоўнасцю можа быць толькі нацыянальная ідэя.

### Без афармлення народа ў нацыю не будзе ні правоў чалавека, ні свабоды, ні сацыяльнай справядлівасці

Нацыянальная ідэя — гэта самасцвярджэнне самабытнасці, годнасці і гонару народа, яго імкненне быць самім сабой, каб не знікнуць у бясконцасці гістарычнага працэсу. Нацыянальная ідэя — гэта прынцып існавання нацыі і форма яе грамадзянскай і духоўнай свабоды. Без афармлення народа ў нацыю не будзе ні правоў чалавека, ні свабоды, ні сацыяльнай справядлівасці. Беларуская нацыянальная ідэя — гэта адзіна рэальны праект пабудовы нацыянальнай, прававой дзяржавы.

### Ідэя нацыянальнай дзяржаўнасці, хаця і марудна, але паступальна набывае ў грамадстве статус важнейшай палітычнай і духоўнай каштоўнасці

Час і логіка развіцця палітычнага працэсу робяць сваю справу. Грамадзяне Беларусі за 14 гадоў прывыклі, што іх дзяржава існуе як суверэнная, а краіна з'яўляецца незалежнай. Да гэтага паступова прывыкае і кіруючая эліта. Сфарміравалася новая генерацыя наменклатуры, якая засвоіла, што быць незалежным гаспадаром у сваёй краіне лепей, чым быць слугой у "вялікага брата". Прадстаўнікі гэтай генерацыі не сталі нацыянал-патрыётамі, але яны ўжо "дзяржаўнікі". У сілу таго, што на змену Б.Ельцыну прыйшоў У.Пуцін, палітычныя перспектывы А.Р. на Расійскіх прасторах звузіліся, а зоркі на крамлёўскіх башнях прытухлі. Пазіцыя некаторых прадстаўнікоў улады па пытанні суверэнітэту і незалежнасці паступова канвергіруе ў бок пазіцыі абвешчанай у свой час Беларускім народным фронтам і Беларускай сацыял-дэмакратыяй. Суверэнітэт і незалежнасць сёння абязуюцца адстойваць амаль усе палітычныя суб'екты краіны. Ідэя нацыянальнай дзяржаўнасці, хаця і марудна, але паступальна набывае ў грамадстве статус важнейшай палітычнай і духоўнай каштоўнасці.

Аднак насуперак аб'ектыўнай заканамернасці палітычнага працэсу над незалежнай краінай і сёння, пагражаючы яе суверэнітэту, заносяць дамоклаў меч "Канстытуцыйнага акта аб саюзнай дзяржаве".

### Усе вялікае, каштоўнае і наватарскае не можа рэалізавацца ў захалусці, на шляху абасаблення і самаізаляцыі

Краіны з дыктатарскімі рэжымамі, у сілу герметычнасці іх соцыуму, менш падатлівы ўздзеянню глабалізацыі. Калі сёння мы назіраем, як усе новыя краіны імкнуцца да супрацоўніцтва, да абмену матэрыяльнымі і духоўнымі каштоўнасцямі, як на нашых вачах фарміруецца адзіная Еўропа і ў Ерасаюз уступаюць нашы суседзі, мы з прыкрасцю задумваемся над лёсам Беларусі, якую рэжым самаізалюе ад гэтых працэсаў. Расійскі сатырык М.Задорнаў са сцэны смяецца: *"Усе ідуць за Захадам, толькі Беларусь засела ў цэнтры Еўропы партызанскім атрадам і ні пядзі не здае".*

Але ў сілу працэсаў глабалізацыі Беларусь рана ці позна будзе развівацца па агульнасусветных і агульнаеўрапейскіх стандартах. Ужо ў XVI стагоддзі беларускі асветнік Францыск Скарына залажыў традыцыю адкрытасці нашага краю свету. Ён вучыў, што ўсё вялікае, каштоўнае і наватарскае не можа рэалізавацца ў захалусці, на шляху абасаблення і самаізаляцыі.

### Лепшай формай барацьбы за правы чалавека і сацыяльную справядлівасць з'яўляецца прынцып салідарнасці

Без канстытуцыйнай змены палітычнай сітуацыі правы і свабоды не могуць набыць свайго практычнага ўвасаблення ў Беларусі. Лепшай формай барацьбы за правы чалавека і сацыяльную справядлівасць з'яўляецца прынцып салідарнасці. Толькі разам можна дабіцца свабоды, якая адкрые магчымасць практычнага ўвасаблення правоў чалавека ў нашай краіне.

У змаганні за правы чалавека мы абапіраемся на сацыял-дэмакратычныя каштоўнасці — свабоду, справядлівасць, салідарнасць — таму што менталітэт беларускага народа гістарычна быў арыентаваны на веру ў чалавечую салідарнасць і ўзаемавыручку (талака), а справядлівасць і свабода заўжды былі векавой марай лепшых сыноў нашай Бацькаўшчыны.

ЁСЦЬ ПЫТАННЕ

# Выбаршчыкам раяць падпісвацца толькі за Аляксандра Лукашэнку. Гэта парушэнне заканадаўства

*"Нам кажуць, што свой подпіс можна ставіць толькі за аднаго прэтэндэнта на вылучэнне кандыдатам у прэзідэнты. Ці так гэта?" Ужо каторы дзень людзі з розных прадпрыемстваў і з розных рэгіёнаў краіны тэлефануюць нам і просяць адказаць на такое пытанне.*

Зборшчыкі подпісаў за вылучэнне кандыдатамі ў прэзідэнты апанентаў Аляксандра Лукашэнкі пацвярджаюць, што не раз сутыкаліся з фактамі падману і запалохвання. Вось, напрыклад, што расказала **Валянціна Кудлацкая**, якая збірае подпісы за вылучэнне Аляксандра Мілінкевіча ў Верхнядзвінску: *"Людзі баяцца падпісвацца за іншых прэтэндэнтаў пасля таго, як у іх пабываюць збіральнікі подпісаў за Лукашэнку — тыя гавораць выбаршчыкам, што падпісвацца можна толькі за вылучэнне аднаго кандыдата, хаця такая інфармацыя супярэчыць выбарчаму заканадаўству. Людзі, якія з ініцыятыўных груп Лукашэнкі, гавораць: "Ні за кога больш не падпісвайцеся!"*

Пацвярджае інфармацыю і віцебская збіральніца подпісаў, маці палітыка Паўла Севярынца спадарыня Таццяна. Яна ўжо напісала скаргу на процізаконныя дзеянні сяброў ініцыятыўнай групы Аляксандра Лукашэнкі. Спасылаючыся на словы старшыні Першамайскага райвыканкама Віцебска Уладзіміра Цітэнкі, сябры Лукашэнкавай групы спрабавалі пераканаць выбаршчыкаў падпісвацца толькі за іхняга прэтэндэнта.

У гэтай сувязі нагадваем: згодна з заканадаўствам, выбаршчык мае права адзін раз паставіць свой подпіс за вылучэнне аднаго прэтэндэнта. Але прэтэндэнтаў такіх можа быць колькі заўгодна. Іншымі словамі, вы можаце падпісацца і за Пазьняка, і за Мілінкевіча, і за Казуліна. Галоўнае, каб за таго ці іншага палітыка свой подпіс вы ставілі толькі адзін раз.

**Алег СНОЎ.**

## *Вялікі збор*

Штаб Аляксандра Мілінкевіча паставіў задачу ініцыятыўнай групе — сабраць паўмільёна подпісаў за свайго прэтэндэнта. На чвэрць мільёна подпісаў разлічвае Аляксандр Казулін. Валерый Фралоў, Сяргей Скрабец і Зянон Пазьняк пра нейкія канкрэтныя лічбы не гавораць. Але вынікі збору подпісаў за першыя два тыдні кампаніі, якія супалі са святамі, пакуль даволі сціплыя. Па некаторай інфармацыі, лідзіруе Аляксандр Мілінкевіч.

УВАГА!

# Подпіс? Калі ласка...

Дзе можна падпісацца за Аляксандра Мілінкевіча? Вось ужо некалькі дзён чытачы тэлефануюць у рэдакцыю і задаюць такое пытанне.

Як нам паведамілі ў штабе адзінага прэтэндэнта ад аб'яднаных дэмакратычных сіл на пасаду прэзідэнта, у Мінску адрасы і час працы рухомых пунктаў збору подпісаў за Аляксандра Мілінкевіча такія:

— Станцыя метро "Усход" — штодня 15.00—17.00;

— станцыя метро "Інстытут культуры" — па цотных днях 15.00—17.00;

— прыпынкавы пункт "Дружная" — па няцотных днях 17.00-19.00;

— Універсам "Цэнтральны" — штодня 12.00—14.00;

— "Гандлёвы дом на Нямізе" — штодня 12.00—14.00;

— Лінгвістычны універсітэт — будзённыя дні 14.00—16.00;

— станцыя метро "Трактарны завод" — будзённыя дні 14.00-16.00;

— Гандлёвы цэнтр "Імпульс" — штодня 15.00—19.00;

ЦУМ — штодня 12.00—15.00;

— супермаркет "Серабранка" — штодня 15.00—18.00;

— рынак "Максімус" — выхадныя дні 11.00—15.00;

— рынак "Маскоўскі" — выхадныя дні 11.00—15.00;

— універмаг "Беларусь" — штодня 15.00—18.00.

Акрамя таго, збор подпісаў вядзецца ў офісах партый:

— у сядзібе Партыі БНФ — вул. Варвашэні, 8 з 10.00 да 20.00;

— у офісе АГП — вул. В.Харужай, 22—1701 з 10.00 да 18.00;

— у офісе ПКБ — зав.Калініна, 12—312 з 10.00 да 15.00.

СЛЫШАЛИ?

## *Павла Северинца — на лесоповал*

Сталинский ГУЛАГ вошел в историю как неорабовладельчество в конце второго тысячелетия. Но детище Сталина продолжает жить и в третьем тысячелетии. Правда, в современном белорусском государстве архипелаг рабского труда называются уже не ГУЛАГ, а ИУОТ (Исправительное учреждение открытого типа).

Один из островков белорусского ИУОТовского архипелага находится в Малом Ситно на Полотчине. Там отбывает трехлетний срок осуждения за политическую деятельность Павел Северинец. Как уже сообщала "Народная воля", подневольный труд этого политика заключался в перетаскивании бревен на железнодорожной станции при погрузке древесины в вагоны. Однако Северинец и в "местах не столь отдаленных" не прекратил политико-просветительскую деятельность.

Власть до поры до времени скрепя сердце терпела. Но вот объявили президентские выборы — и терпение кончилось. Предвыборная агитация политика Северинца явно приведет к тому, что вожделенные 92 процента (ведь должно быть больше, чем у Назарбаева) в Малом Ситно могут не получиться. А потому...

15 января "политхимику" Северинцу полагался очередной краткосрочный отпуск, но вместо отпуска начальник лесопункта Александр Лилин направил Павла на лесоповал. Такова, мол, производственная необходимость. "Необходимость" эта объясняется очень просто. На железнодорожной станции "Алёща" Павел работает посменно, и половина дня у него свободна для политической деятельности. На лесоповале же "химик" Северинец будет занят практически весь день. Пожалуйста, полная свобода предвыборной агитации, но... в лесной чаще. И десятки посетителей, навещающих Павла чуть ли не каждый день, пусть теперь рыскают по лесу в поисках политика.

**Валерий ЩУКИН.**

СІТУАЦЫЯ

# А ён яшчэ сумуе па «яжоўшчыне»!

Дагэтуль здавалася, што ўжо ніколі не паўторыцца жудасная рэальнасць "яжоўшчыны" — крывавых палітычных рэпрэсій сталінскай эпохі. Але жыццё паказвае, што прывід таго змрочнага часу блукае па Беларусі, як па ўласнай сядзібе. Адбываецца ж гэта таму, што сярод нас ёсць людзі з нязбыўнай тугой па "класавай барацьбе" і яе правадыром накшталт Яжова.

З адным такім добраахвотным даносчыкам сутыкнулася ў Віцебску маладая актывістка АГП Юлія Гусакова, памочнік дэпутата гарсавета Вольгі Карач.

У час, калі Гусакова збірала подпісы грамадзян за вылучэнне вядомага ў горадзе праваабаронцы, старшыні аднаго з жыллёвых кааператываў Паўла Левінава ў склад участковай камісіі па выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, дзяўчыну затрымалі супрацоўнікі Першамайскага РАУС і даставілі ў пастарунак.

Там Юлію Гусакову спрабавалі абвінаваціць у парушэнні і нават ужо склалі пратакол, але, даведаўшыся аб здарэнні, да Гусаковай прыехалі сябры, а разам з імі Павел Левінаў, які добра ведае існуючыя законы. Пасля ягонай размовы з начальнікам РАУС падпалкоўнікам Сяргеем Міхасёвым апошні разарваў пратакол, але пакінуў пры сабе пісьмовае тлумачэнне Гусаковай, пасведчанне памочніка дэпутата і копіі адабраных у Юліі падпісных лістоў.

У пастарунку высветлілася, што затрымалі Юлію паводле даносу жыльца дома №39 па Маскоўскім праспекце. Гэты верны паслядоўнік Яжова, да якога Юля завітала ў час збору подпісаў, доўга і пільна дапытваў яе, выяўляючы палітычныя погляды дзяўчыны, а потым выклікаў міліцыю для затрымання "ворага народа".

Павел Левінаў, якога аблсавет неабгрунтавана не ўключыў у склад раённай выбарчай камісіі, паабяцаў падпалкоўніку С.Міхасёву, што калі да яго прыйдзе зборшчык подпісаў у падтрымку А.Лукашэнкі або ягоных прыхільнікаў, ён, Левінаў, таксама выкліча міліцыю і паглядзіць, які будзе вынік...

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

СУД ДЫ СПРАВА

# У Мінску скралі Зянона Пазьняка

*Супрацоўнік унітарнага прадпрыемства "Унидрагмет БГУ" Кастусь КАШЭЛЬ судзіцца за, на яго думку, незаконныя спагнанні са сваім начальствам, а таксама падаў заяву ў гарадскую пракуратуру па факце крадзяжу з яго рабочага кабінета партрэта Зянона Пазьняка. Скрадзены партрэт прэтэндэнта на прэзідэнцкую пасаду спадар Кашэль ацаніў у 1000 долараў ЗША.*

— Я працую інжынерам-тэхнолагам 1-й катэгорыі па перапрацоўцы лому каштоўных металаў, — расказвае карэспандэнту "Народнай волі" **Кастусь КАШЭЛЬ.** — Яшчэ ў 2002 годзе на сцены побач са сваім працоўным месцам я павесіў партрэт Зянона Пазьняка. Да гэтага начальства да партрэта асабліва не чаплялася, але летам 2005 года да нас прыехаў намеснік міністра адукацыі. Пасля візіту ў мяне і пачаліся непрыемнасці. Нехта тэлефанаваў маёй жонцы і ў катэгарычнай форме казаў: "Калі ваш муж не здыме са сцяны партрэт Зянона Пазьняка і не пазбавіцца варожага бел-чырвона-белага сцяга, ён будзе звольнены з працы. А дома няхай павесіць хоць Гітлера". Пасля гэтых размоў у жонкі пагоршылася здароўе, нават лячылася нейкі час ад нервовага стрэсу. Адкрытым тэкстам сказалі і мне: "Здымай партрэт". Я адмовіў, пасля чаго яго хтосьці заклеіў белай паперай. Паперу зняў. І тады, калі ўсе зразумелі, што так проста я партрэт не здыму, яго проста скралі. Прыходжу на працу, пытаюся: "Дзе партрэт?" — "Звяртайся да начальства". Натуральна, што ў мяне няма ніякіх доказаў на якога-небудзь канкрэтнага чалавека, а таму я напісаў заяву з просьбай разабрацца ў гэткай сітуацыі на імя генеральнага дырэктара. Калі не дачакаўся адказу, накіраваў яе ў пракуратуру Маскоўскага раёна Мінска. Напісаў: "Прашу распачаць крымінальную справу па факце крадзяжу маёй маёмасці". І дадаў, што прашу альбо вярнуць мне скрадзены партрэт, альбо з вінаватых у крадзяжы спагнаць 1000 долараў ЗША і знайсці вінаватых у пагаршэнні здароўя маёй жонкі. Я растлумачыў, што партрэт Зянона Пазьняка — рарытэтная каштоўнасць, выпушчаная беларускай дзяржаўнай друкарняй малым накладам, і цяпер сярод прыхільнікаў Зянона Станіслававіча гэты партрэт ацэньваецца менавіта ў такую суму. Пракуратура прымусіла гарадскі аддзел міліцыі правесці расследаванне, але адказ з пракуратуры быў такі: "Падстаў для ўзбуджэння крымінальнай справы няма". Пасля гэтага начальства "накапала" супраць мяне нейкіх дробязных заўваг, што ў суме прывяло да дысцыплінарнага спагнання (на двух мяшках я няправільна напісаў вагу, пасля чаго за адзін мех мне "выпісалі" адну заўвагу, а за другі — другую). Пасля спагнання ідзе ўжо звальненне з працы. Таму я і вырашыў падаць заяву ў Маскоўскі суд г.Мінска, бо лічу, што спагнанні былі на мяне накладзены незаконна. Адказчыкам выступае УП "Унидрагмет БГУ" ў асобе генеральнага дырэктара Георгія Корзуна. Цікава, што ў судзе стараюцца не звязваць спагнанні з крадзяжом партрэта Пазьняка.




Безумоўна, кіраўніцтва УП "Унидрагмет" таксама ўпэўнена ў сваёй праваце, і 12 студзеня павінна было адбыцца чацвёртае за гэты год судовае пасяджэнне па справе Кастуся Кашэля і унітарнага прадпрыемства. А 10 студзеня спадар Кашэль падаў заяву па факце крадзяжу партрэта Зянона Пазьняка ў гарадскую пракуратуру.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

*Міхаіл Марыніч сустрэўся са сваякамі ў свой дзень нараджэння*

**13 студзеня быломy міністру знешнеэканамічных сувязей, палітыку Міхаілу Марынічу, які адбывае пакаранне ў мінскай калоніі № 1, споўнілася 66 гадоў. Яму дазволілі трохгадзінную сустрэчу са сваякамі — Марыніча наведалі яго сыны Ігар і Павел, а таксама жонка Таццяна.**

Як паведаміў БелаПАН Ігар Марыніч, яго бацька адчувае сябе даволі бадзёра. *"Наступствы інсульту, які ён перанёс, ужо амаль прайшлі. Яго рэгулярна даглядаюць урачы, на мінулым тыдні з прычыны дрэнных аналізаў быў скарэктаваны курс лячэння. Але ўсё роўна бацьку трэба лячыць не ў турэмных, а ў нармальных умовах"*, — сказаў І.Марыніч.

Нагадаем, што ў снежні 2004 года суд прыгаварыў былога міністра і дыпламата да пяці гадоў пазбаўлення волі з адбываннем пакарання ў калоніі ўзмоцненага рэжыму. Палітыка прызналі вінаватым у завалоданні аргтэхнікай, якая была бязвыплатна перададзена пасольствам ЗША ў часовае карыстанне грамадскай арганізацыі "Беларуская асацыяцыя "Дзелавая ініцыятыва", якую ўзначальваў Марыніч. 18 лютага тэрмін пакарання палітыку скарацілі да трох з паловай гадоў, а 18 жніўня — яшчэ на год у сувязі з амністыяй. 7 сакавіка Марыніч перанёс ішэмічны інсульт, у сувязі з чым быў пераведзены з калоніі ў Оршы (Віцебская вобласць) у рэспубліканскую турэмную бальніцу. У далейшым да наступстваў інсульту ў Марыніча далалося інфекцыйнае захворванне вачэй.

**Сяргей ПУЛЬША, БелаПАН.**

З-ЗА КРАТАЎ

## *Леванеўскі зноў галадае?*

Лідэр страйкама прадпрымальнікаў Валерый Леванеўскі, які адбывае пакаранне ў Івацэвіцкай калоніі №22, аб'явіў чарговую галадоўку пратэсту. Пра гэта на мінулым тыдні паведаміў сын зняволенага Уладзімір Леванеўскі.

Паводле яго слоў, бацька патрабуе адмяніць спагнанні, накладзеныя на яго адміністрацыяй Івацэвіцкай калоніі №22, у прыватнасці, забарону на спатканне з сям'ёй і забарону на перадачы і куплю прадуктаў у турэмным магазіне. Акрамя таго, як сцвярджае лідэр страйкама, супраць яго працягваюць ажыццяўляць правакацыі, а яго лісты, скаргі і заявы ў розныя інстанцыі па-ранейшаму не рэгіструюцца.

Сын зняволенага таксама адзначыў, што ў апошнім лісце бацька паведаміў пра праблемы са здароўем.

Нагадаем, што ў верасні 2004 года суд Ленінскага раёна Гродна прызнаў лідэра страйкама Валерыя Леванеўскага і яго намесніка Аляксандра Васільева вінаватымі ў нанясенні публічнай знявагі прэзідэнту Беларусі, звязанай з абвінавачаннем ва ўчыненні цяжкага злачынства (частка 2 артыкула 368 Крымінальнага кодэкса). Яны былі прыгавораныя да двух гадоў пазбаўлення волі ў калоніі агульнага рэжыму. У ліпені мінулага года Васільева вызвалілі па амністыі ў сувязі са станам здароўя. Леванеўскаму ў датэрміновым вызваленні было адмоўлена.

Трэба адзначыць, што гэта ўжо не першая падобная акцыя пратэсту Леванеўскага.

## *Аўтуховічу працягнуты тэрмін хатняга арышту*



Прадпрымальніку Мікалаю Аўтуховічу да 30 студзеня працягнуты тэрмін хатняга арышту.

Як паведаміла адвакат Аўтуховіча Галіна Іванова, разглядаць крымінальную справу ў дачыненні да яе падабароннага будзе суд Кастрычніцкага раёна Гродна. Аднак па стане здароўя (пасля 74-дзённай галадоўкі) Аўтуховіч пакуль не можа знаёміцца з матэрыяламі распачатай у дачыненні да яго крымінальнай справы.

Крымінальная справа ў дачыненні да Аўтуховіча базіруецца на тым, што ён недаплаціў падаткаў на агульную суму 679 мільёнаў рублёў (за два гады і два месяцы). У красавіку 2004 года падатковая служба прыняла рашэнне аб спагнанні з прадпрымальніка штрафаў, палічыўшы парушэннем касавых аперацый той факт, што вадзіцелі таксі Аўтуховіча здавалі выручку персанальна яму як уладальніку машын і таксометраў, а не ў фірму "Нікатранс", дзе вадзіцелі знаходзіліся на ўліку. Аднак прэзідыум Вышэйшага Гаспадарчага суда Беларусі адмяніў рашэнне падатковых органаў аб спагнанні штрафаў і накіраваў справу Аўтуховіча на новы разгляд.

14 кастрычніка 2005 года прадпрымальнік быў арыштаваны ў Гродне і змешчаны ў следчы ізалятар. З першага дня арышту ён аб'явіў галадоўку. 15 снежня ў сувязі з рэзкім пагаршэннем стану здароўя ў выніку шматдзённай галадоўкі Аўтуховіч быў пераведзены ў рэспубліканскую турэмную бальніцу. 27 снежня яго даставілі ў Ваўкавыскую раённую бальніцу, а потым перавялі пад хатні арышт. Па ўмовах хатняга арышту Мікалаю Аўтуховічу нельга выходзіць з дому і размаўляць па тэлефоне.

**Сяргей ПУЛЬША.**

ЗАКУЛИСЬЕ

# За медтехнику ответит Постоялко

*И обновленный состав Республиканской тендерной комиссии*

9 января Александр Лукашенко подписал Указ "О внесении изменений и дополнений в Указ Президента Республики Беларусь от 14 августа 2001 г. № 435".

Новым документом внесены изменения и дополнения в состав Республиканской тендерной комиссии по закупке медицинской техники и изделий медицинского назначения.

Из прежнего состава в новую команду, возглавляемую, как известно, бывшим министром здравоохранения Людмилой Постоялко, попали только трое из двенадцати прежних членов. Бывший председатель комиссии **Юрий Плескачевский** освобожден от этой должности. Сейчас он будет трудиться только на основном месте работы — в НИИ тепло- и массообмена имени А.В.Лыкова НАН Беларуси.

Стоит отметить, что должность председателя Республиканской тендерной комиссии хоть и ответственная, но человек, ее занимающий, не имеет отдельного кабинета и прочей "должностной" атрибутики. Члены комиссии, как правило, проводят свои заседания в конференц-зале УП "Белмедтехника".

Республиканская тендерная комиссия была создана в Беларуси в 2001 году указом Лукашенко. Ее возглавил тогдашний министр промышленности **Александр РУСЕЦКИЙ**. Через два года его сменил на этой должности председатель Комитета по науке и технологиям при Совете министров Республики Беларусь Юрий Плескачевский.

Комиссия была создана с целью осуществления независимой экспертизы проводимых тендеров по закупке медтехники на сумму, превышающую 50 тысяч евро. Контролю подвергались не только медицинские учреждения, но и другие ведомства, например, МВД, Министерство спорта и туризма, которые использовали бюджетные средства на закупку медтехники для своих ведомственных медучреждений.

Говорят, что в конце 2004 года Юрий Плескачевский обращался с предложением к А.Лукашенко изменить состав Республиканской тендерной комиссии, объясняя это тем, что постоянного члена комиссии легче "заинтересовать" в решении того или иного вопроса при закупке дорогостоящего медоборудования, а частая ротация кадров не позволит это делать. Однако в 2005 году состав Республиканской тендерной комиссии по закупке работал в прежнем составе. Изменить его решили лишь в конце прошлого года, когда А.Лукашенко освободил от занимаемой должности министра здравоохранения Людмилу Постоялко. О том, что она возглавит Республиканскую тендерную комиссию, стало известно 27 декабря 2005 года. А 9 января 2006 года пресс-служба президента сообщила, что *"в целях повышения эффективности работы комиссии утвержден ее обновленный состав во главе с председателем — членом Совета Республики Национального собрания третьего созыва Людмилой Постоялко"*.

**Ольга ГРИНЕВИЦКАЯ.**

ЗДАРЭННЕ

## *Скрадзена цэнная інфармацыя*

Як перадае Радыё Свабода, у час калядных святаў з памяшкання, дзе знаходзіцца рэкламная служба газеты "Брестский курьер", з камп'ютэраў была скрадзена база даных, што ўтрымлівала ўсе дамовы і рахункі.

ОФИЦИАЛЬНО

# На лесоповал!

С начала 2006 года в Беларуси начала реализовываться государственная программа совершенствования уголовно-исполнительной системы. Она рассчитана до 2010 года и, как заявил информационному агентству "БелТА" начальник Департамента исполнения наказаний МВД Владимир Ковчур, имеет социальную направленность. Одной из главных целей программы названо "совершенствование законодательства, регламентирующего вопросы социальной адаптации освобожденных из мест лишения свободы", а также деятельность лечебно-трудовых профилакториев. В последнем моменте как раз и кроется самое интересное. Программой предусмотрена организация для контингента ЛТП лесоповалов с предоставлением ДИН МВД права реализовывать лесоматериалы, минуя "Белорусскую универсальную товарную биржу".

Государственная программа совершенствования уголовно-исполнительной системы была утверждена Советом министров аккурат перед новогодними праздниками. Получился довольно своеобразный подарок всем осужденным и контингенту ЛТП. В течение пяти лет ДИН МВД намечены ремонт и реконструкция различных котельных, очистных сооружений, столовых, банно-прачечных комбинатов, клубов, строительство новых арестных домов в Волковыске и Мозыре, медицинской части в следственном изоляторе г.Барановичи, штрафного изолятора в поселке Витьба и т.д. В общем, все как всегда. Но в нынешней программе, в отличие от прошлой "пятилетки", есть существенное нововведение. До 2007 года ДИН МВД должен разработать и внести на рассмотрение соответствующих органов:

— изменения и дополнения в Закон Республики Беларусь "О мерах принудительного воздействия в отношении хронических алкоголиков и наркоманов, систематически нарушающих общественный порядок или права других лиц";

— проект постановления Совета министров Республики Беларусь "Об утверждении Положения о лечебно-трудовых профилакториях для хронических алкоголиков и наркоманов, систематически нарушающих общественный порядок или права других лиц;

— проект постановления Министерства внутренних дел "Об утверждении Правил внутреннего распорядка лечебно-трудовых профилакториев Министерства внутренних дел".

Все эти документы предусматривают одну цель — внедрение в систему исполнения наказаний и в первую очередь в ЛТП лесоповала, то есть предоставление ДИН МВД права оказания услуг "по заготовке древесины на корню". Для этих целей МВД совместно с Минлесхозом должно также подготовить нормативно-правовые акты, которые дадут системе исполнения наказаний право реализовывать заготовленный лес, минуя "Белорусскую универсальную товарную биржу".

Чтобы наладить процесс валки леса, правительство планирует использовать технику, списанную в МО, и произвести закупки другого технологического оборудования. Программа предусматривает также рассмотрение на сессиях областных, городских, районных Советов депутатов "вопроса об освобождении организаций уголовно-исполнительной системы от уплаты местных налогов и сборов", наверное, чтобы заготовка леса приносила максимальную прибыль.

Таким образом, если планы правительства реализуются, то уже в 2007 году весь контингент ЛТП в массовом порядке будет исправляться на лесоповалах. В перспективе планируется также привлечение к этому процессу и лиц, отбывающих наказания за совершенные преступления. Эх, нам бы еще сибирские леса!..

**Сергей САЦУК.**

ТЕМА ДНЯ

# Оранжевое небо над «Красным домом»

"Красным" в Минске зовут известное сооружение по улице К.Маркса. Хотя оно скорее розового цвета, чем красного. Но как символ демократии по-белорусски, это название очень удачно. Как удачным является название символа американской демократии — Белый дом.

Я, конечно, не считаю, что могут быть разные демократии. Демократии первого и второго сорта. Скорее, как говорил герой известного романа М. Булгакова: "Осетрина второй свежести это — протухшая осетрина". Поэтому цветовая символика точно определяет место белорусского режима на пути к демократии. Точнее нежелание идти по этому пути.

Судьба постсоветских государств трагична. Когда Советский Союз, этот колосс на глиняных ногах, рассыпался под грузом неразрешимых экономических проблем, народы и России, и всех союзных республик за исключением Прибалтики оказались перед лицом сложнейших проблем. Только в Литве, Латвии и Эстонии демократические силы имели достаточный интеллектуальный потенциал и достаточно конформистскую советскую номенклатуру, чтобы поднять власть "из грязи", по образному выражению А.Лукашенко. В остальных республиках власть из "грязи" подняла та же номенклатура, хотя и нарушив жесткую субординацию, характерную для позднего СССР. Так на вершине власти оказались вторые и третьи секретари горкомов и райкомов, директора заводов и даже совхозов. Исключения были только на востоке, где власть сохранили первые секретари ЦК.

Новые властители, хоть и пользовались демократической фразеологией но демократию ненавидели более всего на свете. Характерный пример: было время, когда Александр Григорьевич входил в Демклуб депутатов Верховного Совета 12-го созыва. Возглавлял группу "Коммунисты за демократию". Но, придя к власти, а позднее получив абсолютную власть, он эту форму правления иначе чем "дерьмократия" не называл.

Да, демократы в славянских республиках оказались не такими ловкими и беспринципными, чтобы взять власть и удержать ее. Сказалась предусмотрительность коммунистического руководства СССР, которое не допускало некоммунистов на сколько-нибудь значимые должности. А в национальных республиках дополнительно укрепляло руководящие кадры выходцами из России. Этой русификаторской политике могли противостоять в той же Прибалтике, но не могли в Беларуси. Даже в Москве разве можно представить, чтобы либерал Е.Гайдар смог удержать власть в своих руках в борьбе с кланом коммунистической номенклатуры, опытной и хорошо знающей свои интересы? Он был нужен ей аки жертвенный агнец. Чтобы скомпрометировать, оболгать и осмеять саму идею свободы. Свободы экономической, политической, интеллектуальной. На ниве экономической свободы взошли олигархи. Но все они в прошлом из той же номенклатурной обоймы — коммунистической или комсомольской. За небольшим исключением дельцов теневой экономики, сумевших сколотить первоначальный капитал без лицензий и льготных кредитов, доступных только номенклатуре.

Так и получилось, что на постсоветском пространстве у власти укрепились кланы, группировки, сообщества, генетически связанные с советской номенклатурой. С той ее частью, которая, ненавидя демократию, сумела использовать короткий период свободы, для того чтобы, пережив страх, порожденный "бархатными" европейскими революциями, создать исключительно жесткую политическую систему, которая исключает какую-либо вертикальную подвижность. Общество расслоилось на узкий слой властей предержащих и "молчаливое" большинство. Молчаливое потому, что лишено какой-либо возможности высказать свое мнение и тем более волю.

Но достигнутая "стабильность" не принесла счастья ни режиму, ни белорусскому народу. Режим испытывает постоянный страх, поскольку волна демократических революций докатилась-таки до границ Беларуси. Над "Красным домом" в Минске загорелась оранжевая заря. Реакция режима и его пропагандистов на это эпохальное событие удивительна. Отличники курсов марксистско-ленинской идеологии совсем забыли ее основные законы. Смена устаревшей общественно-политической формации происходит только путем революции, даже если при этом не прольется ни капли крови. Классики сравнивали революцию с грозой, которая очищает и освежает атмосферу в обществе, дает толчок к росту новых прогрессивных отношений. Поэтому очень смешно слушать, как пышущие злобой комментаторы, что в Минске, что в Москве, предают анафеме "оранжевый" Киев.

И не только проклинают. Последнюю неделю Беларусь с замиранием сердца следила за тем, как Кремль стремился выкрутить руки новой украинской власти. Или хотя бы создать условия для победы на парламентских выборах в марте своему ставленнику В.Януковичу. Не получилось. Слава Богу! Но ребром встал вопрос, чем заплатил А.Лукашенко за любезное согласие В.Путина на досрочные выборы и за низкие цены на газ? Кое-что просочилось в прессу. Москва завладела магистральным трубопроводом и ведет спешные переговоры о совместном владении остальной газотранспортной сетью Беларуси. Клятвенные заверения Александра Григорьевича о том, что он не допустит разбазаривания национального достояния, как и другие его обещания, остались в прошлом. Власть дорога, и пришлось уступить, даже не получив в аренду какое-нибудь завалящее газовое месторождение.

Абсолютная власть имеет свои преимущества. Можно ничего не сообщать народу о своих сделках. Можно принимать неожиданные решения. Поэтому и нет уверенности, что мы знаем все о сочинских соглашениях. Очевидно, что дешевый газ не будет поступать в Беларусь вечно. Дамоклов меч "европейских цен" будет висеть над головой Александра Григорьевича и после 19 марта. Очевидно, что сделанные имущественные уступки не могут удовлетворить аппетиты Кремля полностью. **А у нашего режима не остается больше ничего пригодного для торговли, кроме суверенитета.**

Но это слишком высокая цена за третий президентский срок А.Лукашенко даже для терпеливых белорусов. Как же избежать цветной революции в Минске? Рискну предложить А.Лукашенко один рецепт, основанный на любви всех диктаторских режимов к плебисцитной демократии. Референдум по Конституционному акту Союза Беларуси и России следует назначить на 19 марта. И призвать народ голосовать за суверенитет Беларуси. Либо против Акта, если в нем не будет статьи о гарантиях нашего суверенитета. Явка на выборы и референдум будет под 90%. Оппозиция будет молчать. Наступит полное национальное единство. Акт будет провален, и победа А.Лукашенко будет элегантнее предыдущих. Москва уйдет несолоно хлебавши. Достигнуть нужного результата нетрудно, имея в своем распоряжении белорусскую избирательную систему и полный контроль над СМИ.

Но победа будет пирровой. Наш режим слаб. Как все "советские" постсоветские режимы, он не в состоянии сделать главное — провести политические и экономические реформы, "отвести страну от пропасти". А значит, небо над "Красным домом" будет оранжевым.

**Юрий ХОДЫКО, профессор.**

СКАНДАЛ

## *«Фанерны» медаль?*

Напярэдадні Новага года генерал, "сенатар", пісьменнік і футбаліст **Мікалай Чаргінец** у інтэрв'ю аднаму з інфармацыйных агенцтваў заявіў: *"Кембрыдж даслаў мне залаты медаль за дасягненні ў прафесійнай палітыцы ў 2005 годзе"*. І дадаў, што *"гэта вельмі добры падарунак да Новага года, бо залаты медаль — не проста прызнанне маіх асабістых дасягненняў, але і прызнанне поспехаў краіны"*.

Пасольства Вялікабрытаніі ў Беларусі было *"вельмі здзіўлена"* з'яўленнем у прэсе падобнай інфармацыі і накіравала запыт у Кембрыджскі універсітэт. Адтуль прыйшоў адказ, які днямі і распаўсюдзіла амбасада: *"На ўзроўні універсітэта не існуе праграмы ўзнагароджвання палітыкаў такога кшталту"*.

Каб высветліць, што да чаго, "Народная воля" звярнулася за каментарыем у Савет Рэспублікі, дзе працуе Чаргінец. Там патлумачылі, што інфармацыйнае агенцтва, друкуючы паведамленне, зрабіла памылку, пераблытаўшы Кембрыджскі універсітэт з Кембрыджскім біяграфічным цэнтрам.

Дарэчы, у Інтэрнеце можна знайсці вельмі шмат звестак пра тое, як вядомым людзям, якія працуюць у самых розных галінах дзейнасці, уручалі медалі, дыпломы і розныя ганаровыя званні ад імя Кембрыджскага біяграфічнага цэнтра. Так, некалькі гадоў таму медалём за дасягненні ў музычнай сферы была ўзнагароджана спявачка **Ала Пугачова**. У адной з маскоўскіх газет заметку пра гэтую падзею назвалі *"Пугачова атрымала медаль з фанеры"*. Дасведчаныя людзі расказваюць, што пасланні з Кембрыджскага біяграфічнага цэнтра звычайна дасылаюць больш-менш вядомым людзям авіяпоштай, у прыгожых канвертах. Вынаходлівыя брытанцы кожны раз прапануюць нешта новае. Напрыклад: *"Паважаны Іван Іванавіч Іваноў, хочаце, каб мы Вам прысудзілі званне "Знакамітая жанчына 2010 года?"* ці *"Ганаровая грамадзянка Галактыкі"*, ці *"Славуты дзеяч Зямлі"?"* альбо *"Вас усім светам, адзінагалосна абралі самым-самым палітыкам года"*. Вельмі цікава, што пасля гэтых прапаноў звычайна напісана: *"Калі Вы згодны, то пазначаную суму грошай трэба пералічыць на рахунак №..."*. Як правіла, чым гучней тытул, тым большую суму грошай трэба пералічыць на рахунак. На адным з інтэрнетаўскіх форумаў напісана, што спецыялісты Кембрыджскага біяграфічнага цэнтра такім чынам робяць грошы з паветра, спекулюючы на славалюбстве і ганарыстасці некаторых людзей...

**Даша ПАЎЛОЎСКАЯ.**

ЭКСПЕРТИЗА

# Что дальше?



**Борис ЖЕЛИБА,**
*профессор,*
*доктор экономических наук*

Прошлогодний бум мировых цен на нефть и супердешевый российский газ позволили экономике Беларуси удержаться на плаву и одновременно дали пищу государственным пропагандистам вести разговоры об эффективности особого пути развития страны. Белорусские нефтеперерабатывающие комплексы с радостью перерабатывают российскую нефть, приобретаемую по ценам ниже мировых. В прошлом году в среднем по 197 долларов за тонну. Зато экспортировали свои нефтепродукты в западные страны по 326, а в СНГ продавали их по 466 долларов. Покупая российский газ по 46,68 долларов за 1000 м$^3$, власти определяют его цену для субъектов хозяйствования в 60—70 и выше долларов.

Указанные разницы и есть основа "белорусского экономического чуда". Получаемые доходы, вероятно, усыпляют белорусских руководителей, которые перестали ориентироваться на иностранные инвестиции. Лишнее свидетельство разыгравшихся амбиций правительства — Программа социально-экономического развития страны на 2006—2010 гг. В ней заявлено полное процветание белорусской экономики. Но оно никак не согласуется с теми нерешенными проблемами, которые там же довольно правильно изложены. Более того, из Программы невозможно увидеть, как и за счет чего эти проблемы возможно решить.

Вкратце их перечислим, потому что они общеизвестны и весьма наболевшие.

Во-первых, в стране высокий уровень физического и морального износа основных фондов, высокая материалоемкость и энергоемкость производства.

Активная часть основных фондов белорусской промышленности изношена на 80%. Низкие темпы обновления не позволяют затормозить процесс старения технической базы народного хозяйства. Лет через пять их износ достигнет 100%. Что дальше?

Экономика Австрии потребляет 6 млрд. м$^3$ природного газа, белорусская экономика — свыше 20 млрд. Дальнейшие комментарии излишни.

Во-вторых, ограниченность инвестиционных ресурсов и инновационных возможностей для обновления основных фондов, преодоления технического и технологического отставания производства.

Активный экспорт сырьевых и полусырьевых продуктов (калийные удобрения, нефтепродукты, черные металлы) дает валюту, но ее еще надо превратить в современные технологии, которые может дать только Запад. Он на масштабное сотрудничество по политическим причинам не идет. В результате белорусская инвестиционная политика не содержит инновационной составляющей, которая обеспечит конкурентоспособность отечественной продукции на внешних рынках в будущем.

В-третьих, недостаточная эффективность производства и сложное финансовое положение значительного числа организаций реального сектора экономики.

Скажем сразу: не решив первые две проблемы, невозможно решить и эту. Подтверждением сложного финансового состояния наших предприятий являются низкие остатки средств на их расчетных счетах, которые могут покрыть весьма незначительную часть их растущей кредиторской задолженности. Вливанием убыточных предприятий в более финансово устойчивые проблему не решить.

Серьезный тормоз, высокий уровень налоговой нагрузки, сдерживающий деловую активность и развитие частного сектора, и как следствие недостаточное развитие малого предпринимательства.

Здесь задачи в большей мере могут решаться за счет изменений во внутренней экономической политике. Однако намерения больше декларируются. Минфин в Программе обещает снизить общую налоговую нагрузку к концу пятилетки на 2—3% к ВВП. Как власти относятся к малому и среднему предпринимательству — комментировать не имеет смысла.

В области денежно-кредитной политики в последние годы, казалось бы, у нас меньше проблем, чем в иных сферах экономики. Тем не менее задача привлечения в банковскую сферу 1 млрд. долларов, мягко говоря, не выполнена. В то же время в Программе власти обязывают банковскую систему страны довести ресурсную базу к 2010 г. до 62% к номинальному ВВП. Учитывая запланированный на пятилетку его рост, включая инфляцию, по оценкам аналитиков банки должны находить за пятилетку не по 1 млрд. долларов в год, а по 5, т.е. выйти на 25 млрд. долларов. Какое чудо это может сотворить?

Экономика Беларуси — открытая экономика. Тревожно, но переоценка белорусского рубля по отношению к валютам наших основных торговых партнеров, надо полагать, вложила свою лепту в почти 10%-ное сокращение экспорта в Россию. Вкладчики опять начинают ориентироваться на валютные депозиты. Покупательная способность белорусского рубля, несмотря на укрепление его обменного курса, не повышается. Цены в долларовом эквиваленте успешно растут. Покупательная способность самого доллара с 2000 года, когда взят курс на привязку к нему белорусского рубля, уменьшилась в 1,5—2 раза.

Таким образом, хотя в Программе правильно обозначены ключевые проблемы белорусской экономики, непонятно, на каких путях они будут решаться. Расчеты на то, что внешняя рыночная конъюнктура будет так же для Беларуси благоприятна, как до сих пор, по меньшей мере спорны и не надежны. Каковы же альтернативные пути решения проблем, обозначенных в Программе? Главные из них:

— реальное акционирование и продажа пакетов акций, в том числе контрольных, инвесторам, готовым вложить средства в технологическое перевооружение предприятий;

— реальное снижение налогового бремени предприятий — снижение НДС до 15%, налога на прибыль до 20%, отмена так называемых оборотных налогов;

— обеспечение реального равноправия всех форм собственности в экономике, в т.ч. в промышленности и на селе;

— развитие системы ипотечного кредитования (под залог земли и недвижимости) в сельском хозяйстве.

Мы не случайно употребляем слово "реальное", имея в виду не декларируемое, записанное только на бумаге, а выполняемое на практике.

ПАДЛІЧЫМ!

# Як у пенсіянера «ўкралі» 47 кілаграмаў свініны...

Гэта ж трэба так не паважаць людзей, каб хлусіць ім у вочы... Ну каму стала жыць лепш? Казнакрадам — можа быць. Высокім наменклатуршчыкам — таксама. А для большасці насельніцтва жыццё не здаецца малінай. Пенсіянеры вунь ледзь канцы з канцамі зводзяць. Ды і як іх звесці, калі цэны падскокваюць амаль кожны дзень.

Балбочуць пра нейкі "беларускі рай", а які ж гэта рай, калі так званы сярэдні пенсіянер у 1990 годзе мог купіць за сваю месячную пенсію 61 кілаграм свініны, а цяпер — толькі 24 кілаграмы. Атрымоўваецца, "укралі" у яго 47 кілаграмаў свініны.

Вось якая табліца ў мяне атрымалася, калі я пачаў лічыць, колькі можна было купіць за сярэднюю пенсію (120 рублёў) у 1990 годзе і колькі можна "адхапіць" за сярэднюю пенсію (прыкладна 180 тысяч) цяпер (у кілаграмах).

| Прадукты (кг) | XII/1990 | XII 2006 |
|---|---|---|
| Свініна | 61 | 24 |
| Бульба | 1200 | 300 |
| Хлеб | 855 боханаў | 300 боханаў |
| Сыр | 43 | 20 |
| Сала | 57 | 23 |
| Каўбаса "Доктарская" | 66 | 22 |
| Масла | 37 | 26 |
| Селядзец | 83 | 30 |

Ой, як далёка да 1990 года! А ў тым жа годзе, па вызначэнні сённяшніх гаваруноў, быў ледзь не развал, крызіс. І чаго "дасягнулі"?

Я параўнаў пакупную здольнасць пенсіянераў. Яна прыкладна такая і ў іншых катэгорый насельніцтва.

А цяпер параўнаем, чаго "дасягнулі" за мінулы год. Колькі каштавалі прадукты ў студзені 2005-га і колькі каштуюць зараз.

| Прадукты | XII/2005 (1 кг/руб.) | XII/2006 (1 кг/руб.) |
|---|---|---|
| Свініна II катэгорыі | 6200 | 6860 |
| Ялавічына | 6400 | 6580 |
| Каўбаса "Доктарская" | 7490 | 8840 |
| Хлеб "Нарачанскі" | 1340 | 1360 |
| Бульба | 300 | 670 |
| Селядзец атлантычны | 5420 | 5900 |
| Сала салёнае | 6120 | 7480 |
| Яйкі Д-2 | 1670 | 1820 |
| Цукар | 1370 | 1570 |
| Сасіскі "Любіцельскія" | 7420 | 8550 |
| Смятана (1 бан.) | 830 | 930, 1010 |
| Сыр каўбасны | 5200 | 6500 |
| Малако | 810 | 810—1320 |
| Масла | 4800 | 5900 |
| Сырок глазіраваны | 310—345 | 340—470 |
| Тварог сялянскі | 750 | 930 |

Як бачым, нічога танней не стала. Цэны на харчаванне апераджаюць паслугі, павышэнне пенсій, зарплат.

Міжволі ўзгадалася маленькая інфармацыя ў газеце "Правда", надрукаваная гадоў сорак таму. У іспанскім горадзе Барселоне павысілі кошт праезду, як мне помніцца, на 0,3 працэнта. І што вы думаеце зрабілі барселонцы пад ярмом фашыста Франка? Яны дружна, усім горадам перасталі ездзіць у гарадскім транспарце. Улада вярнула ранейшыя кошты на праезд.

А ў нас? На кухнях людзі лаюцца на чым свет стаіць, на тэлевізар лаюцца, а вось адкрыта выказаць пратэст — не. А таму і абдзіраюць нас, як ліпку. Даходзіць да абсурду. Цана на газ з Расіі вось ужо другі год не павышаная (чаму — вядома), а за яго выкарыстанне ў кватэрах пастаянна, штомесяц павышаецца. Цуд у рэшаце!

А як навучыліся маскіраваць рост цэн. Возьмем, напрыклад, вараныя каўбасы. Даўно зніклі з продажу "Маскоўская", "Клецкая", "Часнаковая" і іншыя. Каштавалі яны некалі ў межах трох тысяч рублёў за кілаграм. Затое ў канцы мінулага года з'явіліся новыя... па 8—8,5 тысячы рублёў за кілаграм. Хлеб "Нарачанскі" застаўся ў ранейшай цане, затое падаражэлі некаторыя іншыя гатункі.

Адным словам, з якога боку, з якой меркай ні падыходзь, бачыш адно: цэны растуць бязбожна. За іх ростам павышэнне зарплаты, пенсій, стыпендый ніяк не паспявае. А да 1990 года ой як далёка!

**Мікалай ДЗЕЛЯНКОЎСКІ,**
**пенсіянер, жыхар Мінска.**

СТАЛІЦА

# У Мінску будзе ГЭС

У адным з пралётаў павадкавага вадазбору на водасховішчы каля мінскай ЦЭЦ-2 плануецца пабудаваць малую гідраэлектрастанцыю.

У сакавіку павінна быць распрацавана праектна-сметная дакументацыя на мантаж тэхналагічнага абсталявання новай ГЭС, вызначаны аб'ёмы фінансавання і будаўнік.

Як паведамілі агенцтву "Мінск — Навіны" спецыялісты вытворчасці Вілейска-Мінскай воднай сістэмы, у крайнім правым пралёце вадазбору, працягласць якога каля дзевяці метраў, плануецца дэмантаваць металічны затвор і на яго месцы збудаваць адну са сцен новай ГЭС, якая будзе ўтрымліваць фронт вады. Электраэнергія, выпрацаваная дзвюма турбінамі, будзе паступаць у адзіную энергасістэму сталіцы.

ПРЭЦЭДЭНТ

# «Сакрэтны» даход камунальшчыкаў

*"Пад ляжачы камень вада не цячэ". Справядлівасць гэтай прымаўкі пацвердзіў жыхар Віцебска, вайсковец у запасе Павел Левінаў. "Калі не я, то хто?" — вырашыў ён і ў верасні 2005 года звярнуўся ў Першамайскі раённы суд з іскам да камунальнай службы раёна, у якім запатрабаваў выканання аплачаных паслуг — уборкі ў пад'ездзе дома. Пры гэтым Левінаў даказаў, што ён, як і ўсе жыльцы шматпавярхоўкі, рэгулярна пералічваў грошы за так званае тэхнічнае абслугоўванне дома, куды ўваходзіць уборка лесвічных пляцовак і падвалаў.*

Тое, што Павел звярнуўся ў суд, нядзіўна. Ён і раней спрабаваў дабівацца ад дзяржаўных ведамстваў выканання законаў, але поспех яму спадарожнічаў не заўсёды. Дзіўна тое, што на гэты раз Левінаў перамог. 7 снежня 2005 года суд вынес пастанову, якая абавязвае ЖРЭТ Першамайскага раёна, а заадно і Віцебскую гарадскую ЖКГ выконваць уборку лесвічных клетак у доме, дзе жыве аўтар заявы.

Дарэчы, падчас разгляду іску выявілася, што грошы за ўборку ў пад'ездах спаганяюцца з месцічаў Віцебска даўно. Гэтая паслуга прадугледжана "Нормамі і правіламі ўтрымання жылых дамоў", уведзенымі 15 год таму. Грошы за гэта з таго часу камунальшчыкі спраўна бралі, а ўборкай не займаліся, так што дбаць аб чысціні ў пад'ездах мусілі самі жыльцы, якія плацілі за ўборку грошы.

Але не варта патрабаваць у камунальшчыкаў справаздачу аб выдаткаванні сродкаў, атрыманых ад насельніцтва на "тэхнічнае абслугоўванне жылля". Звесткі аб гэтым засакрэчаныя, як і згаданыя "Нормы і правілы", якія простаму смяротнаму ў ЖРЭТ ці ў ЖЭУ нізавошта не пакажуць.

Спатрэбіліся настойлівасць Паўла Левінава і судовае разбіральніцтва ягонага іску, для таго каб даведацца і дакументальна пацвердзіць, што камунальшчыкі наўмысна засакрэцілі ад народа ўсе дакументы аб сваіх абавязках перад насельніцтвам. Паводле гэтых дакументаў бачна, што жыллёва-камунальная служба атрымлівае незаробленыя, незаконныя даходы за кошт падману соцень тысяч законапаслухмяных наіўных грамадзян.

З аднаго боку, камунальшчыкі справядліва скардзяцца на тых кватэранаймальнікаў, якія маюць даўгі па "жыроўках", а з другога — самі заўзята "жыруюць" на незаробленыя грошы.

Судовая справа па іску Паўла Левінава стала важным юрыдычным прэцэдэнтам і прынесла карысць не аднаму Левінаву. Канкрэтным яе вынікам з'явіўся загад №18 прадпрыемства "Віцебская гарадская ЖКГ" ад 25 лістапада 2005 года "Аб арганізацыі ўборкі дапаможных памяшканняў прысядзібных тэрыторый жылых будынкаў".

Самае цікавае ў загадзе — адсутнасць даты пачатку ягонага дзеяння. Гэта дазволіць камунальшчыкам, звыкла схаваўшы загад аб уборцы пад'ездаў і сутарэнняў далей ад цікаўных вачэй, ігнараваць выкананне гэтага дакумента. Дарэчы, так яно ўжо і сталася. Не толькі паўсюдна ў горадзе, але нават і ў доме, дзе жыве шукальнік справядлівасці Левінаў, ніхто і не збіраецца выконваць рашэнне суда і ведамасны загад. А тое, куды пайшлі спагнаныя за 15 год грошы, што выдаткоўваліся нібыта на ўборку пад'ездаў, так, відаць, і застанецца сакрэтам камунальнай гаспадаркі Віцебска і галіновага міністэрства, без дазволу якога незаконнае адыманне грошай у насельніцтва было б немагчыма.

Цікава, што віцебскі досвед "сакрэтных" камунальных даходаў за кошт падману жыльцоў прыжыўся непаўсюдна. У Гродне пад'езды шматкватэрных дамоў убіраюцца не радзей двух разоў на тыдзень. І наогул у гэтым горадзе няшмат нараканняў на камунальную гаспадарку, бо яна сумленна адпрацоўвае грошы, якія збірае ў насельніцтва. Таму, відаць, Гродна і чысцей за Віцебск, і парадку там больш.

Няўжо гэта з-за таго, што Гродна бліжэй да "варожага", "шкоднага" Захаду?

— Пачакаю крыху, — гаворыць Павел Левінаў, — і калі не ўбачу, што ўборка пад'ездаў пачалася, зноў накіруюся ў суд з іскам. Буду патрабаваць, каб ЖРЭТ вярнуў мне і іншым гараджанам незаконна спагнаныя за ўборку пад'ездаў грошы за 15 год.

Мала хто верыць у тое, што Левінаву ўдасца дабіцца перамогі ў наступным працэсе. Бо вяртанне ўжо атрыманых "сакрэтных" даходаў нявыгадна для казны і для дзяржаўнага іміджу. А тое, што замінае ўладзе, замінае і суду...

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**



ОТ ВОРОТ...

# «Карл Цейсс» уходит?

Немецкая компания "Карл Цейсс", десять лет назад наладившая у нас в рамках совместного предприятия "Цейсс-БелОМО" производство компонентов и узлов для медицинской техники и сложных микроскопов, сейчас рассматривает вариант переноса своего производства из Беларуси в страны Балтии или Китай. Перед Новым годом немцы получили отказ Министерства промышленности Беларуси на пятилетнее продление сроков аренды производственных помещений на Минском механическом заводе им. С.И.Вавилова.

Отказ был мотивирован тем, что ранее действовавшие договоренности по условиям долгосрочной аренды производственного комплекса вступили в противоречие с новыми положениями, вступившими в силу с начала этого года на основании соответствующего указа президента. Чиновники Минпрома решили перестраховаться и в качестве исключения пока предоставили "Цейсс-БелОМО" трехмесячную отсрочку, которая истекает в начале марта 2006 года. Руководству совместного предприятия они посоветовали искать справедливости у президента, который несколько лет назад побывал на этом предприятии и пообещал поддержку самому крупному на сегодняшний день проекту немецких бизнесменов в Беларуси.

Услышит ли глас немецкого бизнеса Лукашенко, неизвестно. Но пока по истечении первого месяца отсрочки никаких телодвижений со стороны властей не последовало. Такое отношение к инвестору и заставило головной офис "Карл Цейсс" подумать о возможном переносе своего производства в страны, в которых законодательство отличается стабильностью, а для развития бизнеса не требуются согласования на уровне главы государства.

**Петр СУДИЛОВСКИЙ,**
*www.belaruspartisan.org*

СЛЫШАЛИ?

# Правительство объявило войну троллейбусам-убийцам

Похоже, высшие белорусские чиновники всерьез озабочены проблемой электробезопасности при перевозке пассажиров на городском электрическом транспорте, и в первую очередь на троллейбусах. Накануне новогодних праздников, 28 декабря, заместитель премьер-министра Республики Беларусь В.Гапеев утвердил комплекс мер организационного и технического характера, направленных на повышение безопасности на городском электрическом транспорте.

Как сообщила пресс-служба Минтранса, согласно утвержденному документу до конца января текущего года будет проведена изоляция ступенек и поручней входных дверей троллейбусов марки ЗИУ-682 и их модификаций, а на входные двери с обеих сторон и по контуру проемов входных дверей троллейбусов будет нанесено диэлектрическое лакокрасочное покрытие.

Кроме того, до 1 ноября все троллейбусы будут оснащены устройствами контроля токов утечки со световой и звуковой сигнализацией в кабине водителя, а до 1 мая текущего года будут разработаны и подготовлены предложения по возможности замены песчано-соляной смеси, применяемой для посыпки улиц на менее электропроводящие и агрессивные смеси.

Комплекс мер также предусматривает вывод из эксплуатации подвижного состава троллейбусов старше 15 лет до 2010 года, а также ежегодное 5%-ное обновление подвижного состава.

Одновременно предприятиями городского электрического транспорта приняты меры по дополнительной герметизации токоведущих частей троллейбусов от воздействия водно-солевого раствора, изоляции подножек троллейбусов, входных поручней с применением изоляционных материалов.

Ежедневно проводится предрейсовый контроль подвижного состава на токоутечку, а также контроль изоляции троллейбусов на диспетчерских пунктах после каждого оборотного рейса с помощью переносных приборов. Проведен внеплановый инструктаж с водительским составом по соблюдению правил эксплуатации троллейбусов на линии.

*Агентство финансовых новостей.*

БЕЗРАБОТИЦА

# Министр радуется, но есть ли повод?

*В Беларуси уровень официальной безработицы за 2005 год составил 1,5%. Однако говорить, что эта цифра отражает реальную картину на рынке труда, нельзя.*

*"В Беларуси самый низкий уровень безработицы среди стран СНГ и Восточной Европы"*, — заявила на пресс-конференции министр труда и социальной защиты **Антонина МОРОВА**. По ее словам, еще в 2004-м была поставлена цель выйти к концу 2005 года на уровень безработицы в 1,5% к численности экономически активного населения. "По предварительным оценкам, мы вышли на этот показатель. Это было непросто сделать. Реализован комплекс мер по обеспечению гарантированной занятости, прежде всего по созданию новых рабочих мест. Эффективность социальной модели состоит в том, чтобы каждый человек своим трудом мог обеспечить благополучие себе и своей семье (это касается людей, которые находятся в трудоспособном возрасте). Каждый, кто может работать — должен работать!" — с гордостью заявила министр.

Однако Морова, видно, забыла добавить, что после того, как рухнул "могучий и нерушимый" и в Беларуси была создана Служба занятости, данной структурой фиксировался весьма низкий уровень безработицы в целом по стране. Так, по состоянию на 1 августа 1991 года в Центрах занятости был зарегистрирован лишь 331 человек. Однако затем цифры начали расти: в 1992 году — более 2 тыс., в 1994 году, когда к власти пришел Лукашенко, — 88 тысяч человек. В результате его "белорусской модели развития" количество только зарегистрированных безработных увеличилось на баснословную цифру. Так, в 2005 году в Центре занятости на учете состояло около 1 млн. человек.

На сегодняшний день в Беларуси каждый второй безработный — в возрасте до 30 лет (самый продуктивный возраст), а каждый шестой — выпускник школы. Чуть более 60% безработных имеют среднее образование и лишь около 5% не имеют профподготовки, а значит, в условиях конкуренции на рынке труда их шансы на трудоустройство невелики. Сложно найти работу и специалистам. Около 80% вакансий в банке данных государственной службы занятости составляют рабочие профессии, в то время как 35% безработных имеют среднее специальное или высшее образование.

Безработица в Беларуси имеет "женское лицо". Рынок труда наименее благосклонен к женщинам — на нем преобладает спрос на мужскую работу. Между тем 66,1% безработных — женщины. В последнее время в нашей стране обостряется и проблема длительной безработицы. В прошлом году число безработных, перерыв в трудовой деятельности которых превышает год, возросло по сравнению с 2004 годом на 22%.

Кроме того, в связи с хваленым реформированием агропромышленного комплекса и из-за отсутствия альтернативной работы в последнее время увеличивается количество безработных в сельской местности. На сегодняшний день каждый шестой безработный — житель села. Так, по сравнению с 2004 годом уровень безработицы на селе вырос на 12%. В целом же по стране на конец 2005-го на одно свободное место года претендовало 4 безработных, а в некоторых регионах — до 10 безработных.

Также хотелось бы отметить, что реальный уровень безработицы в нашей стране значительно выше официальных данных. Это связано, во-первых, с тем, что безработными в нашей стране считаются только трудоспособные граждане, постоянно проживающие на территории государства, не имеющие работы, не занимающиеся предпринимательской деятельностью, не обучающиеся в учебных заведениях и не проходящие военную службу, состоящие на учете в государственной службе занятости. Однако для получения достоверной картины следует учитывать не только зарегистрированных безработных, но и скрытую безработицу, которая, по данным экспертов, составляет около 3—4% от численности трудоспособного населения.

Кроме того, как известно, государственные статистические органы обслуживают власть, а потому рисуют лишь те циферки, которые нужны президенту, дабы он мог заявить о себе как о мудром правителе. Потому у нас и зарплата все растет, а уровень безработицы все падает. Только вот данного "падения" никак не ощущают тысячи людей, тщетно пытающихся отыскать приличную работу.

Надо сказать, что государство своеобразно решило бороться с безработицей. Так, в 2005 году был принят новый Закон "О занятости населения в Республике Беларусь". Документом предусмотрен целый ряд новшеств: законодательно устанавливается перечень граждан, которые считаются занятыми, которые не могут быть зарегистрированы в качестве безработных. Конкретизируется понятие подходящей работы для различных категорий граждан. Коренным образом изменяются нормы, направленные на повышение мотивации безработных к быстрейшему трудоустройству. Расширяется перечень причин увольнения работника, по которым ему не назначается пособие при регистрации в качестве безработного. Кроме того, если через три года после регистрации в центре занятости безработный так и не нашел работу, он будет снят с учета и лишится пособия.

**Вероника ЛАБКОВИЧ.**
*www.euramost.org*

РЭЙТЫНГ

# Паказчыкі несвабоды

**Беларусь па індэксе эканамічнай свабоды трапіла ў спіс краін з найбольш несвабоднай эканомікай, заняўшы 151-е месца са 157 краін. Мы саступілі нават Туркменістану, які заняў 148-е месца.**

Індэкс эканамічнай свабоды сумесна вызначалі Heritage Foundation і Wall Street Journal. Яны ацэньвалі 157 краін па 50 незалежных параметрах, разбітых на 10 катэгорый эканамічнай свабоды, дакладней, — гандлёвую палітыку, падатковы ціск, ступень умяшальніцтва дзяржавы ў эканоміку і манетарную палітыку, інвестыцыйны клімат, стан банкаўскага і фінансавага рынкаў, заробкі і цэны, абарону ўласнасці, заканадаўства і г.д.

*"Беларусь практычна не праводзіць эканамічныя рэформы і лібералізацыю рынку і застаецца найбольш несвабоднай краінай у рэгіёне*, — гаворыцца ў справаздачы. — *Асноўнай перашкодай для эканомікі краіны з'яўляецца антырыначная палітыка савецкай эры"*.

Дарэчы, Расія ў гэтым рэйтынгу заняла 122-е месца і таксама знаходзіцца ў спісе несвабодных краін.

У пяцёрку найбольш эканамічна свабодных краін увайшлі Ганконг, Сінгапур, Ірландыя, Люксембург, Вялікабрытанія і Ісландыя (апошнія падзялілі пятае месца). Цікава, што з былых саюзных рэспублік у гэтую катэгорыю ўвайшла толькі Эстонія, якая заняла сёмае месца і нават на два пункты абышла ЗША.

Найбольш несвабоднымі названы Паўночная Карэя, Іран, Бірма, Зімбабвэ, Лівія і Венесуэла.

**Ул.інф.**

Народная Воля

16 СТУДЗЕНЯ 2006 г.

СВЯТОЧНАЕ

# Адзін дзень у ідэальнай Беларусі

Бобр — мястэчка ў Мінскай вобласці ля самай мяжы з вобласцю Магілёўскай. Бліжэйшы райцэнтр — Крупкі. Да яго ад Бабра 7 кіламетраў, да сталіцы — каля 130. Мясцовая славутасць — надзвычай маляўнічая рака, што дала імя паселішчу, і мастак-нонканфарміст **Алесь ПУШКІН**. У Бабры Алесь нарадзіўся, адсюль з’ехаў на вучобу ў Мінск. Пасля заканчэння Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута (цяпер — Беларуская акадэмія мастацтваў) Пушкін працаваў у Віцебску, спрабуючы адрадзіць у колішняй сталіцы сусветнага авангарду творчую атмасферу часоў Марка Шагала і Казіміра Малевіча. Але, як калісь Шагалу і Малевічу, Алесю Пушкіну давялося Віцебск пакінуць. Мастак стала атабарыўся ў родным Бабры. Тут ажаніўся, тут нарадзіўся ягоны сын. Усё атрымалася, як у прымаўцы “Дзе нарадзіўся, там і згадзіўся”. Двойчы ў год, на Каляды і Купалле, Бобр нагадвае Віцебск у дні “Славянскага базару”. На гэтыя святы ў Пушкіных збіраецца вялікая кампанія. Прыязджаюць старыя сябры; моладзь, для якой Алесь — жывая легенда, прыходзяць “на агеньчык” мясцовыя людзі. Так было і на гэтыя Каляды.

Госці збіраліся на працягу цэлага дня. Тыя, хто прыехаў раней, заспелі службу ў мясцовай царкве. Дзякуючы роспісам, якія зрабіў у царкве Алесь Пушкін, яе ведаюць далёка за межамі Беларусі. Мастак распісаў храм у адпаведнасці з праваслаўным канонам, але дадаў сучасных рэалій. Скандальную вядомасць меў адзін фрагмент: у пякельным полымі гараць асобы, імёны якіх не хочацца называць, каб не трапіць пад закон “Аб дыскрэдытацыі...”. Цяпер на месцы гэтай кампазіцыі белая пляма. Зафарбавана цэнзурай...

Стол у Пушкінскай хаце быў увасабленнем талерантнасці. За ім утульна адчувалі сябе людзі рознага ўзросту, жыццёвага досведу і палітычных поглядаў. Быў, напрыклад, Алесеў сябар, прадпрымальнік, які робіць грошы ў краіне Туркменбашы, а на радзіму наведваецца зрэдку. Ягоны патрыятызм выявіўся ў тым, што ён даў грошы на адліўку звана для мясцовай царквы і на іншыя патрэбныя храму рэчы. Гэты хлопец не хаваў свайго захаплення “бацькам туркменаў”, а заадно і “бацькам народаў”, Генералісімусам Савецкага Саюза. Да мясцовага “бацькі” ён таксама ставіцца прыхільна. У кампаніі менш талерантнай яго маглі і пабіць. Тут — цярпелі.

У кампаніі было некалькі журналістаў; беларус-будаўнік, які працуе ў Фінляндыі; дызайнер, які жыве з уласнай творчасці; “панкаваная” моладзь з гітарай і песнямі ад “NRM”; фалькларысты, этнографы і нацыяналісты з Мінска, мясцовая інтэлігенцыя. Пазваніў тэлефон. Хтосьці з нью-йоркскіх беларусаў павіншаваў Алесеву сям’ю з Калядамі. Пушкін сказаў: чакаем мясцовага “камісара Катані”. Гэтаму міліцыянту барацьба з карупцыяй каштавала пасады. Зачапіў тых, каго чапаць небяспечна. Каб сцішыўся, яго выгналі на пенсію.

Сам Алесь быў увасабленнем лагоднасці. Разліваючы па чарках гарэлку “Паўстанцкую”, ён распавядаў: “Вось, уявіце. Пасля чарговай "элегантнай перамогі" Аляксандр Лукашэнка, апрануты ў вышываную кашулю, ладзіць інаўгурацыю ў Курапатах. Паклаўшы на “лаву Клінтана” Скарынаву біблію, а на Біблію — руку, Рыгоравіч пранікнёна гаворыць: “У гэтым святым месцы клянуся болей не рабіць супраць Беларусі нічога кепскага. Пакінем усё цёмнае ў мінулым і разам рушым да святла!” Пачуўшы гэта, застолле канстатавала: “Пушкіну болей не наліваць, бо ён ужо глючыць!” Але, зрэшты, пад “Паўстанцкую”, пад смажаную каўбасу з бульбай ды тушаную качку з яблыкамі можна і такое паслухаць, пра такое памарыць.

Адной з кульмінацый свята стала з’яўленне барда Зміцера Сідаровіча з адмысловай дудою-валынкаю і двума паплечнікамі з гармонікам. Дабіраліся да Бабра яны з прыгодаю. Пачаўшы рэпеціраваць яшчэ ў электрычцы, так “завялі” пасажыраў, што тыя не хацелі з імі развітвацца і на станцыі “Бобр” не выпускалі музыкаў з вагона. Прабіваліся з боем. Так што да Пушкінавай хаты яны прыйшлі крыху пакамечанымі і злёгку раз’юшанымі. І адразу заспявалі ваярскую песню “Мы выйдзем шчыльнымі радамі!”.

Як толькі сцямнела, пачалі ладзіць калядаванне. Сам Алесь апрануўся “Дзедам”, маладых і зухаватых прызначылі “механошамі”, на конкурснай аснове абралі некалькі “коз”. Карэспандэнту “Народнай волі” выпала стаць “Мядзведзем”. “Мядзведжая” экіпіроўка складалася з кажуха навыварат і вусатай маскі... кацяняці. Гэты персанаж, “у Смаргоні гадаваны, кіем выхаваны”, мусіў запаўняць паўзы (пакуль “механошы” збіраюць каляду), дэманструючы, “як гаспадар у маладыя гады да дзевак заляцаўся”, “як гаспадыня на дыскатэку збіраецца”, “як гаспадарскія дзеткі ў школку марудна ідуць і са школкі дадому бягуць”. Найбольш адказная роля была ў “казы”. Ад яе артыстызму залежыць ступень шчодрасці гаспадароў. Спачатку “каза” мусіць танчыць, а потым, стомленая, падаць на падлогу. Калядоўшчыкі з галёканнем тлумачаць гаспадарам, што “казе”, каб ачуняць, трэба выпіць і пад’есці. А “механошы” спрытна падстаўляюць мяхі. Цікава, што на пэўным адрэзку каляднага паходу “казою” была дзяўчына з Аўстрыі, якая трапіла ў гэтую кампанію выпадкова. З ёй пазнаёміўся праз Інтэрнет мясцовы хлопец і запрасіў у Бобр. Запрасіў хутчэй з ветлівасці, не надта разлічваючы, што прыедзе. А яна прыехала... Нашай мовы не ведала, калядны рытуал не надта разумела, але ёй патлумачылі па-англійску, што пры слове “Down!” трэба падаць, а на “Stand up!” — ускокваць.

На карце Бобр — мястэчка невялікае, але як паходзіш па ім нагамі, дык адчуваеш, што і не малое. У адных хатах нас радасна віталі, у іншых — пры набліжэнні калядоўшчыкаў у пакоях выключалі святло. Маўляў, “дома нікога няма” альбо “ўжо спім”. Так затаіўся пры выключаным святле мясцовы бацюшка. У Пушкіна з ім складаныя стасункі. Алесь не даў бацюшку выставіць у царкве ікону забітага бальшавікамі цара Мікалая II. “Забойства імператара мы не ўхваляем, ахвярам чырвонага тэрору спачуваем, але гэта герой ваш, а не наш. Няма чаго яму рабіць у беларускай царкве”, — сказаў Алесь. Пушкін не даў біць у званы, калі прыязджаў уладыка Філарэт, таму што па загадзе Філарэта быў зафарбаваны ў царкве згаданы вышэй Алесеў роспіс...

Павітаўшы бобраўскі народ, калядоўшчыкі на дзвюх машынах паехалі ў Крупкі, каб ахапіць святам і райцэнтр. Па вяртанні зноў селі за стол, спявалі песні. І хоць частка народу апошняй электрычкай з’ехала ў Мінск, людзей не паменела. Новыя прыйшлі.

Мы ад’язджалі раніцаю. Я сказаў Алесю, што хачу назваць сваю карэспандэнцыю “Адзін дзень у ідэальнай Беларусі”. Пушкін пацiснуў плячыма: “Бобр — ідэальная Беларусь? Тут большасць насельніцтва пенсіянеры. Моладзь адсюль бяжыць. Для чалавека з вышэйшай адукацыяй тут няма працы. Мяне паважаюць за тое, што я царкву распісаў, што вянчаўся ў царкве, што дом і двор у мяне дагледжаныя. Але калі-нікалі пачуеш: "Калі ўжо таго Пушкіна пасадзяць, ды не выпусцяць", “Хай яго так на могілкі возяць, як ён нашаму прэзідэнту гной вазіў”. Гэта звычайная Беларусь".

І ўсё ж цэлы дзень я жыў у ідэальнай Беларусі. Дзе над домам бел-чырвона-белы сцяг, а ў хаце на ганаровым месцы — партрэт маці, герб “Пагоня” і ікона Маці Божай. Дзе колькі б ні прыйшло гасцей, усім знойдзецца месца за сталом, усім будзе як пераначаваць. Дзе гучыць беларуская мова, але зразумеюць і таго, хто гаворыць на мове замежнай, дзе шануюць традыцыю, але і не цураюцца авангарда. Дом стаіць на стромкім беразе, з акна адкрываецца краявід, нібыта ўзяты з карціны Пітэра Брэйгеля, — заснежаная даліна ракі Бобр. Прыгожы, як у першы дзень Стварэння. Адсюль, з гэтага дома, Алесь ездзіць са сваімі карцінамі і перформансамі ў блізкае і далёкае замежжа. Тут сустракаецца з сябрамі, блізкімі і далёкімі.

І на Купалле я сюды зноў прыеду.

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ.**

НАВАКОЛЛЕ

# *Мы перажылі 32 стыхіі*

## Але ці такое ўжо незвычайнае зараз надвор’е?

У 2005 годзе ў Беларусі адбыліся 32 стыхійныя гідраметэаралагічныя з’явы. Пра гэта на прэс-канферэнцыі ў Мінску паведаміў начальнік Рэспубліканскага гідраметэаралагічнага цэнтра Анатоль Паляшчук. Да такіх з’яў адносяцца моцны вецер, вельмі моцны дождж, працяглы дождж, моцныя снегапады, мяцеліцы і іншыя.

Паводле ацэнкі спадара Палешчука, адной з самых сур’ёзных стыхійных з’яў у Беларусі быў прыход у краіну 8—9 жніўня глыбокага цыклону. У выніку праходжання цыклону над краінай бесперапынна ішлі дажджы, у цэнтральных і заходніх раёнах быў перавышаны сутачны максімум ападкаў. *“Цыклон быў вельмі магутным. Звычайна такія масы зараджаюцца на мяжы акіян — суша, ён сфарміраваўся на тэрыторыі Украіны. Максімальная хуткасць ветру была зафіксавана ў 28 метраў за секунду, або каля 100 кіламетраў за гадзіну”*, — зазначыў начальнік Белгідраметцэнтра.

Як зазначыла на прэс-канферэнцыі галоўны сіноптык Белгідраметцэнтра Вольга Фядотава, 2005 год быў цяплейшы за звычайны — сярэднегадавая тэмпература яго склала 6,8 градуса, што вышэй за сярэднія шматгадовыя значэнні на 1 градус. “Такім і больш цёплым год бывае ў сярэднім адзін раз у шэсць гадоў, а за апошнія 16 гадоў перыяду пацяплення — кожны другі год такі і больш цёплы. Самым цёплым годам за ўсю гісторыю назіранняў у Беларусі быў 1989 год з сярэднегадавой тэмпературай 8 градусаў”, — сказала сіноптык.

Паводле слоў В.Фядотавай, сярэдняя тэмпература зімой 2004—2005 гадоў склала мінус 2,7 градуса, такой і больш цёплай у Беларусі зіма бывае прыкладна адзін раз у чатыры гады. “Але пры гэтым яна пачалася надзвычай позна — толькі ў сярэдзіне студзеня. Першая палова студзеня пабіла ўсе рэкорды — максімальная тэмпература дасягала плюс 8—11 градусаў”, — сказала сіноптык.

Май аказаўся ў 2005 годзе выключна дажджлівым, зазначыла В.Фядотава. За месяц у Беларусі выпала 116 міліметраў ападкаў, што перавысіла сярэднія шматгадовыя значэнні больш чым у два разы. На паўночным захадзе краіны трохразовае перавышэнне нормы ападкаў зарэгістравана ўпершыню за 100 гадоў назіранняў.

Лета было блізкім да нормы, за выключэннем жнівеньскага ўрагану. Пры гэтым у ліпені тэмпература перавышала сярэднія значэнні на 1,4 градуса і склала 19,2 градуса, што бывае раз у восем гадоў.

Восень па тэмпературным рэжыме была цяплейшай за звычайную на 1,3 градуса, сярэдняя тэмпература дасягала 7,6 градуса. Пры гэтым было больш суха — 91 міліметр ападкаў, што склала 57 працэнтаў ад сярэдніх значэнняў.

Паводле слоў галоўнага сіноптыка, праўдападобнасць прагнозаў па стыхійных гідраметэаралагічных з’явах склала 91 працэнт.

**Генадзь ШАРЫПКІН.**

ВІНШУЕМ!

# *«Маленькія ўцекачы» дабеглі да перамогі*

Кінастужка “Маленькія ўцекачы”, створаная беларускімі рэжысёрамі Рэнатай Грыцковай і Барысам Берзнерам, прызнана лепшай на XXII Маскоўскім міжнародным фестывалі фільмаў для дзяцей і юнацтва. Галоўную ўзнагароду кінафоруму беларуская стужка падзяліла з расійскім цыклам казак “Гара самацветаў”.

Фестываль, які праходзіў у расійскай сталіцы, быў арганізаваны Міжнародным фондам Ралана Быкава. У ім прымалі ўдзел фільмы, створаныя за апошні год кінематаграфістамі Расіі, Беларусі, Францыі, Фінляндыі, Германіі, Кітая, Швецыі, Іспаніі, Ізраіля, Нарвегіі, Даніі і іншых краін.

**Ул.інф.**

РЭГІЁН

# *На Брэстчыне створаць службу сядзелак*

**Да канца года ва ўсіх раёнах Брэсцкай вобласці будзе створана служба сядзелак па доглядзе за ляжачымі хворымі. Як паведаміў БелаПАН намеснік старшыні камітэта па працы і сацыяльнай абароне аблвыканкама Анатоль Ярашук, яна адкрыецца на базе тэрытарыяльных цэнтраў сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва.**

“Летась мы вывучалі попыт на паслугі такога роду ў Кобрыне, Лунінцы, Пінску і Баранавічах. Жыццё паказала, што яны запатрабаваны. Іх скарысталі больш за 50 чалавек. Бо ляжачы хворы ў сям’і — гэта заўсёды шмат праблем, асабліва калі хвароба хранічная і цяжкая. Тэрмін, на які запрашаюць сядзелак, вагаецца ад двух тыдняў да некалькіх месяцаў”, — зазначыў Анатоль Ярашук. Паводле яго слоў, такая служба будзе арганізавана сумесна з рэгіянальнымі цэнтрамі занятасці насельніцтва, што будзе садзейнічаць стварэнню новых працоўных месцаў.

**Ларыса ШЫГАНАВА.**

ЗЕМЛЯКИ

# Основоположник белорусской хирургии

*К сожалению, об этом человеке известно не так уж и много, а все оттого, что родился Кондратий Иванович Грум-Гржимайло в дворянской семье. Как свидетельствует недавняя история, рождение не в “той” семье зачастую становилось причиной вычеркивания человека из отечественной истории. Однако у нас есть возможность хоть в некоторой степени исправить это заблуждение. Отдать дань уважения уникальному ученому, оставившему заметный след и в белорусской, и в русской медицине.*

## «Первый долг быть человеколюбиву...»

Кондратий Иванович Грум-Гржимайло (21.09.1794 — 1874) появился на свет в Могилеве; его отец умер, когда ребенку исполнилось всего несколько лет. После учебы в народном училище мальчик поступил в Могилевскую духовную семинарию, где изучал “русскую и латинскую пиитику и риторику”, а после — закончил еще и гимназию, где науки преподавались на русском и польском языках.

Известно, что пять лет, с 1815-го по 1820 год, юноша провел в стенах Виленского университета. При этом одни источники свидетельствуют, что обучался он на физико-математическом факультете, другие — что на медицинском *(см.энциклопедический справочник “Асветнікі зямлі беларускай”, М., 2001*). Тогда как на самом деле на втором году обучения Кондратий Иванович перешел с одного факультета на второй; за успехи в изучении наук ему была выделена премия в 100 рублей серебром. Получив по завершении учебы степень медика-хирурга, что, согласно правилам того времени, давало ему право быть оператором (так тогда называли врачей-хирургов). А теперь вдумайтесь, насколько серьезным было отношение к этой профессии, если штатные должности операторов имелись только при военных госпиталях и при врачебных управах губернских городов. То есть по штату — одна должность на губернию, не считая военных госпиталей! Таким образом, в Беларуси было четыре оператора (по одному на губернию).

Безусловно, профессия врача была одной из самых почитаемых в Российской империи. К слову сказать, еще в допетровской Руси существовало высшее медицинское административное учреждение, — Аптекарский приказ (возникло в XVI в.) В его ведении находились все медицинские работники, закупка медикаментов, сбор лекарственного сырья; им проводились мероприятия против эпидемий. Деятельность операторов, коим стал и Грум-Гржимайло, определялась специальным положением Приказа общественного Призрения (с 1775-го по 1864 год это государственное учреждение ведало и здравоохранением), своеобразным кодексом чести врача. Там имелись такие строки: *“Хотя каждого врача есть первый долг быть человеколюбиву, а во всяком случае готову к поданию помощи людям, болезням одержимым, но качества сии для оператора несравненно еще нужнее, поелику действует его рука, и без помощи его никакие средства не в состоянии не только исцелить, даже облегчить болезни...”.*

Кондратий Иванович отправился “облегчать болезни” в родной Могилев, где был назначен состоять в Главной квартире 1-й армии. Любопытные свидетельства приводит единственный (?!) исследователь жизни и деятельности этого человека И.М.Стельмашонок, между прочим, хирург, напечатавший две статьи о Грум-Гржимайло в журналах “Здравоохранение Белоруссии” и “Неман” *(обе в 1969 г.)*. *“В течение восьми лет (с 1820-го по 1828 г. —* **Авт.**), — пишет в своих воспоминаниях Кондратий Иванович, — *я пользовался милостями Главнокомандующего армии графа фон дер Остен-Сакена. Полевой генерал-штаб-доктор Баталин доставил мне всю возможность производить хирургические операции в военном Печерском госпитале, которым заведовал умный и ученый доктор С. Ф. Козаковский. В обширной госпитальной и частной практике я делал... все хирургические операции, произвел уже в первые три года 24 операции радикального лечения недавних паховых грыж по собственной хирургической методе”*. Тогда как всех разноплановых операций, произведенных неутомимым оператором за эти три года, было 144! И это при том, что ни асептиков, ни антисептиков и в помине не было! Для гипноза и обезболивания хирурги тех времен применяли морфий и опий. Для справки: в 1836 г. в госпиталях и больницах Москвы было сделано 208 операций, тогда как в Могилеве с 1821-го по 1823 г. Грум-Гржимайло произвел 144 операции.

## Открыв поприще дарованиям

Проживая в Могилеве и имея обширную практику, Грум-Гржимайло всерьез занялся наукой; он написал диссертацию (как и подобало, на латинском языке), в которой обобщил опыт своей деятельности, отправив ее в Виленский университет. 10 октября 1823 г. получил степень доктора медицины в хирургии. И вскоре за успехи в хирургическом деле и защиту диссертации Грум-Гржимайло... наградили орденом Святого Владимира 4-й степени и бриллиантовым перстнем. Таково было отношение власти к просвещенным сынам Отечества...

Кондратий Иванович был первым из уроженцев Беларуси, кто стал врачом-хирургом и первым, кто защитил диссертацию! На основе которой позднее им написана изданная в 1837-м в Санкт-Петербурге книга, за которую в 1839-м получена престижная Демидовская премия (половинная).

Прежде чем отойти от практики и выйти в отставку, чтобы заняться научной и общественной деятельностью, наш герой побывал в ратных походах. Вместе с лейб-гвардейским драгунским полком принимал участие в русско-турецкой войне (1828—1829), пройдя по маршруту Могилев—Бердичев—Тульчин; в военных действиях против мятежников, поднявших вооруженное восстание в Королевстве Польском (1830). Полк, где полковым штаб-лекарем служил Грум-Гржимайло, возвратился из походов, но не в Могилев, а в Петергоф.

Уже в 1833 году Кондратий Иванович определен “чиновником особых поручений при гражданском генерал-штаб-докторе и членом Санкт-Петербургского физиката”. В 1835 г. — избран действительным членом Императорского вольного экономического общества и заседал в V комитете (медицинском). Общество было создано в 1765-м “в целях распространения в государстве полезных для земледелия и промышленности сведений”. В своих воспоминаниях о том периоде Грум-Гржимайло писал: *“С этого времени я посвятил свои труды изучению предохранительного оспопрививания и вообще здоровья детей...”* Для сведения: впервые об оспопрививании в Российской империи заговорил французский дворянин, лейб-хирург Екатерины I (супруги Петра Великого), а затем Елизаветы II — граф Иоганн Герман Лесток. А массовые прививки против опасных заболеваний в России начали осуществляться при Николае I в канун Крымской войны 1854—1855 годов.

Кондратий Иванович переносил свой опыт в книги; написал труд о предупреждении детских болезней; издал “Руководство к привитию предохранительной оспы”, за которое в 1837 г. был удостоен золотой медали. *“В 1851 г. по моему предложению,* — писал он, — *по моей программе Вольное экономическое общество при председателе V отделения Ф. Ф. Деппе устраивало в доме сего оспопрививательное учреждение и, кроме того, дало средства прививать оспу в моей квартире. Таким образом, с 1856-го по 1865 г. под моим надзором привита предохранительная оспа 15.000 людей всех возрастов”*.

Еще одну золотую медаль Грум-Гржимайло получил за медицинскую книгу, которую мы восприняли бы как необычную. Необычную хотя бы потому, что она написана... в стихах. Это “Добрые советы матери”, подсказывающие, как распознать некоторые болезни у детей и как их лечить. Уникальными можно также считать книги, краткое содержание которых содержится уже в самих названиях: *“Друг матерей, или полное руководство как предупреждать, распознавать детские болезни и лечить их такими врачебными средствами, которые всегда можно иметь дома или выписать из аптеки без рецепта, или покупать в лавке”; “Полное руководство к воспитанию, образованию и предупреждению болезней детей со времени их рождения до совершеннолетия”*. За “Полное руководство...” Вольное экономическое общество наградило нашего земляка золотой медалью, а Его Императорское Высочество наследник цесаревич — золотыми часами.

Если бы наши отечественные издатели разыскали эти труды да отпечатали на современном языке, никаких бы переводных заморских докторов Споков не понадобилось бы! Потому что более приемлемых пособий для взращивания и воспитания детей, чем те, которые писались в давние времена, для нашего менталитета еще не придумано...

Как медик-просветитель Грум-Гржимайло стал широко известен благодаря газете “Друг здравия” — первой медицинской газете, которую он основал и редактировал. Она выходила еженедельно с 1833 г., имея целью “знакомить врачей с отечественной и иностранной литературами, доставить им возможность сообщать свои наблюдения и опыты, словом, открыть поприще дарованиям, усердию и соревнованию в ученых занятиях — для славы отечественной и пользы человечества”. На протяжении 40 лет Кондратий Иванович издавал доступную каждому народно-врачебную газету, являвшуюся своеобразной медицинской энциклопедией.

Почти 60 лет Грум-Гржимайло отдал любимому делу — лечению и просвещению народа. И лучшей памятью о его великом служении, несомненно, был бы памятник, возведенный в родном городе — Могилеве.

**Ольга ГРИГОРЬЕВА.**

АФІЦЫЙНА

# *Пашпарт стары, выгляд новы*

## Нацыянальныя пашпарты грамадзян Беларусі будуць удасканаленыя

Паводле інфармацыі Міністэрства ўнутраных спраў, 1 красавіка 2006 года спецыялісты дэпартамента па грамадзянстве і міграцыі МУС пачнуць прымяняць новую тэхналогію запаўнення асноўных дакументаў. Фотаздымак, напрыклад, будзе не ўклейвацца, а пасля сканіравання друкавацца пры дапамозе струйнага прынтэра. Старонка 31 і трэцяя старонка вокладкі, якія найбольш часта адкрываюцца і дзе пададзены ўстановачныя звесткі ўладальніка дакумента, будуць пакрывацца ламінатам для іх больш доўгага выкарыстання без пашкоджання пашпарта. Ва ўдасканаленым дакуменце замест слоў “асабісты нумар” будзе значыцца “ідэнтыфікацыйны нумар”. Акрамя таго, на старонцы 31 орган, які выдаў пашпарт, будзе ўказаны на дзвюх мовах — беларускай і рускай.

Што да стварэння дакументаў з чыпамі, якія ўтрымліваюць біяметрычныя звесткі іх уладальнікаў, то ў дэпартаменце дзяржаўных знакаў Міністэрства фінансаў (Дзяржзнак), нягледзячы на тое, што прамога даручэння аб распрацоўцы біяметрычных дакументаў яшчэ не пастуала, ужо год вядзецца такая праца. У першую чаргу вывучаецца сусветны вопыт. Акрамя таго, Дзяржзнак наведалі прадстаўнікі многіх вядучых вытворцаў абсталявання для біяметрычных сістэм, прапаноўваючы паслугі сваіх прадпрыемстваў. Таму другім накірункам дзейнасці стала вывучэнне магчымасцяў айчынных вытворцаў. У выніку была распрацавана канцэпцыя пашпарта з біяметрычнымі звесткамі, у якой прапаноўваюцца варыянты: або адначасовае ўвядзенне замежнага пашпарта з біяметрычнай інфармацыяй і полікарбанатнай ідэнтыфікацыйнай карты для выкарыстання ўнутры краіны, або ўвядзенне ў наяўны пашпарт чыпа з біяметрычнымі звесткамі. Спецыялісты аддаюць перавагу апошняму варыянту, паколькі ён абыдзецца дзяржаве і грамадзянам значна танней. Важна таксама, што пашпарт з чыпам можна будзе вырабіць у Беларускім Доме друку. *“Наша задача — зрабіць працэс дакументавання насельніцтва мінімальна затратным, таму размова павінна ісці пра ўвядзенне біяметрычных тэхналогій у дзейныя пашпарты,* — гаворыць намеснік міністра ўнутраных спраў Беларусі Віктар Філістовіч. — *Абменьваць гэтыя дакументы, калі імі забяспечаны амаль усе грамадзяне Беларусі, не мае сэнсу — будуць не толькі значныя фінансавыя затраты, але і негатыўны рэзананс сярод насельніцтва. Каб гэтага пазбегнуць, пасля таго як будзе пастаўлена задача ўвядзення біяметрычных пашпартоў, нам неабходна будзе распрацаваць правільную канцэпцыю яе выканання”.*

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

Народная Воля
16 СТУДЗЕНЯ 2006 г.

ВОКРУГ СПОРТА

# Ну, за отрицательные результаты!

*Национальное антидопинговое агентство создано и уже назначен его директор. Все довольны. Вопросом «Почему создано так поздно?» никто даже и не задается. Ответить-то нечего...*

Итак, директором Национального антидопингового агентства назначен 48-летний Николай Кручинский. Доктор медицинских наук (бывший заведующий клинико-экспериментальным отделом Республиканского научно-практического центра радиационной медицины и экологии человека), настоящий профессионал своего дела сейчас поставлен у руля агентства, работы у которого, судя по последним допинг-скандалам с участием белорусских спортсменов, непочатый край.

## Беларусь — в кризисном списке

Вопрос о создании в Беларуси антидопингового агентства прорабатывался давно. Проблема допинга с каждым днем набирает такие обороты, что не замечать ее не то чтобы невозможно, а просто невыгодно. Всемирное антидопинговое агентство (WADA) уже включило Беларусь в кризисный список, который подразумевает высокие спортивные достижения (Беларусь стабильно входит в двадцатку сильнейших стран мира) при несоответствующих демографической ситуации и экономическом развитии. Теперь белорусские спортсмены — под "микроскопом" различных международных организаций. Согласно официальной статистике WADA, от 5 до 10% проведенных анализов дают неблагоприятный результат, за всю историю суверенной Беларуси из тысяч проведенных проб только 28 дали положительный допинг-тест, но и этого хватает "под завязку".

Увы, но антидопинговый отдел в Центре спортивной медицины WADA не устраивал, и их требования были однозначны — в стране должна существовать отдельная антидопинговая структура.

## Агентство

Национальное антидопинговое агентство будет бюджетной организацией и уже прошло организационные процедуры. Министерство финансов согласовало структуру агентства — пока оно будет состоять из 7 человек: директор, главный бухгалтер, юрисконсульт и четыре сотрудника информационно-аналитического отдела.

Что дает создание такого агентства? Кроме организационных *(координация деятельности государственных и общественных организаций по реализации задач антидопингового контроля, проведение единой антидопинговой политики на территории Беларуси, разработки антидопинговых программ)* и контролирующих *(оценка эффективности принимаемых мер, реализация антидопинговых программ)* функций, будет еще и представительская — налаживание связей с антидопинговыми организациями других стран, участие в международных конференциях, конгрессах, обсуждение проблемы. Кто его знает, может, и не попала бы Беларусь в тот самый злосчастный кризисный список, если бы раньше было такое агентство, которое и демонстрировало бы миру нашу открытость и активную борьбу с допингом. Раньше WADA просто не видела, с кем работать.



## Почему так поздно?

В Министерстве спорта и туризма Беларуси охотно обсуждают эту тему в кулуарах. Люди ведь грамотные — не дураки.

*"Мы работаем с опозданием в допинговой тематике на десятилетия,* — говорят в спортивном ведомстве. — *Получается так, что у нас какие-то необходимые решения принимаются тогда, когда нас что-то к этому подталкивает. В народе об этом говорят: "Когда жареный петух в одно место клюнет..."*

Теперь, когда есть агентство, пошли разговоры и о создании своей допинг-лаборатории. Хотя, ради справедливости, о ней тоже говорят уже долго и упорно. Министерство спорта, безусловно, заинтересовано, чтобы иметь такую лабораторию, в обсуждении этой темы задействовано много специалистов, но при этом возникает масса вопросов. Как будет устроена лаборатория? В чьем ведомстве она будет находиться? Да и стоит такая лаборатория недешево. Если раньше можно было создать допинг-лабораторию где-то за полмиллиона долларов, то сейчас речь идет уже о нескольких миллионах. В Кельнской лаборатории, например, установлено такое оборудование, что ему позавидует любой научно-исследовательский институт. Оборудование самое современное, с минимальными границами обнаружения, потому что список запрещенных препаратов увеличивается из года в год. Доказала лаборатория, что какое-то вещество сходно с запрещенным препаратом, — оно автоматически становится допинг-веществом, даже если его нет в списке запрещенных.

Пока что все пробы белорусы по-прежнему возят в Москву. Хотя там и не самая современная лаборатория.

## Анжелика и антидопинговые «короли»

Последний допинг-скандал, связанный с белорусской конькобежкой Анжеликой Котюга, снова поставил было белорусов в неудобную позу. Тренер и муж Анжелы Игорь Погорелов неоднократно заявлял, что запрещенные препараты, обнаруженные в организме Анжелы, — чистой воды провокация, спортсменку таким образом хотят убрать конкуренты. И свершилось едва ли не чудо! Анжелику Котюга вроде как реабилитировали, признав, что допинг-проба была взята с нарушением правил. А такое бывает очень и очень редко. Прецеденты были и до этого, когда невиновность спортсмена доказывалась, помнят случаи, когда спортсмена дисквалифицировали за употребление запрещенных препаратов, тот действительно эти препараты принимал, но специалист находил ошибку в самой процедуре анализа допинг-пробы, и результаты отменяли.

## Побольше отрицательных результатов!

Все эти нюансы очень тонкие, их надо знать и уметь в случае необходимости применить. Сама жизнь показала, что агентство должны были создать уже давно. Потому что белорусские спортсмены стабильно продолжают пополнять список допинг-нарушителей. Потому что кроме неграмотности некоторых тренеров и спортсменов нет четкого и достаточно жесткого контроля со стороны Министерства спорта. Надо смотреть правде в глаза.

...Когда допинг-проба спортсмена дает положительный результат — это горе. Для спортсменов, тренеров, чиновников. Мы — за отрицательные результаты!

**Алесь СИВЫЙ.**

ШАХМАТЫ

### Из шахматной классики

Предлагаем решить двухходовую задачу выдающегося американского шахматного композитора Вильяма Шинкмана (1847—1933). За свою долгую творческую жизнь Шинкман составил свыше 3000 композиций всех жанров, многие из которых были удостоены призов и отличий.




*В.Шинкман*

**Белые:** Крf2, Фd1, Сс2, Cg5, Ка1, п.d3 (6).

**Черные:** Крс3, пп. а2, а3, b5 (4).

**Мат в 2 хода.**

Свои ответы присылайте по адресу: **220030, Минск, ул.Энгельса, 34а, редакция газеты "Народная воля", "Шахматы".**

### Меценат и чемпион

Очередной, 18-й по счету, чемпионат мира по заочной игре в шахматы был первым в истории, в котором игра велась по электронной почте. Понадобилось всего около двух лет, чтобы завершились все 105 партий. При этом впервые не пришлось прибегать к присуждению неоконченных партий. В итоге напряженной борьбы убедительную победу одержал голландский мастер Йоп ван Остером, показавший высокий результат — 11 очков из 14 возможных. Весь чемпионат он провел без единого поражения. Йоп ван Остером хорошо известен в шахматном мире. И прежде всего как шахматный меценат. Много лет под его опекой проходил матч сильнейших шахматисток мира и выдающихся ветеранов. Огромную популярность завоевали турниры по быстрым шахматам и вслепую, которые проводятся в Монако с 1992 года.

В них ежегодно встречаются сильнейшие гроссмейстеры. Новый чемпион мира достиг рекордного для заочных шахмат рейтинга — 2777. Приводим одну из партий Й.ван Остерома из последнего чемпионата мира.

*Х.ван Кемпен — Й. ван Остером*
**Сицилианская защита**

1.е4 с5 2.Kf3 d6 3.d4 cd 4.K:d4 Kf6 5.Kc3 a6 6.Ce3 e5 7.Kb3 Ce6 8.f3 Ce7 9.Фd2 o-o 10.o-o-o Фс7 11.g4 Kb d7 12.g5 Kh5 13.Kd5 C:d5 14.ed a5 15.Kpb1 a4 16.Kc1 f6! Дебютная новинка, ранее встречалось 16...Kb6. 17.g6?! hg 18.Фg2 a3! 19.Ф:g6 ab 20.Kb3 f5 21.Ch3 (На 21.Ф:h5 последовало бы 21...Л:а2! с сильнейшей атакой) 21...Kb6 22.Ф:h5?! Белые все же решаются принять "данайский дар". Но лучше было играть 22.C:b6 и после 22...Ф:b6 23.Ф:h5 Фа7 24.Kp:b2 Ф:а2+ 25.Kpc1 Фа3+ 26.Kpd2 Фb4+ — ничья.) 22...Kc4 23.C:f5 Л:f5 24.Ф:f5 K:e3 25.Фd3 Kc4! Черные не довольствуются отыгрышем материала и делают ставку на атаку. 26.Kd2 Kd2+ 27.Л:d2 Фа5 28.a3 Фс5 29.Kp:b2 e4! Подключая к атаке слона. 30.Фb3 Cg5 31.Ле2 Cf6+ 32.c3 ef 33.Лd2 Ле8 34.Kpa2 b5 35.Лс2 Kph7 36.Лhc1 Ле3 37.Лb2 C:c3! 38.Ф:b5 (Если 38.Лbc2, то 38...b4) 38...Фd4! 39.Лbc2 Kph6 40.h4 Ле2 41.Kpb3 Cd2 42.Лf1 Фе3+. **Белые сдались.**

Чемпион мира на 1,5 очка опередил серебряного призера Г.Эльверта (Германия). Лишь пятым финишировал экс-чемпион мира россиянин Михаил Уманский.

### Вундеркинды шахмат

Самым известным вундеркиндом в шахматах был Сэмюель Решевский. Научившись самостоятельно играть в шахматы в возрасте 5 лет, наблюдая за игрой отца, он столь быстро совершенствовался, что уже через несколько лет давал сеансы одновременной игры в Лондоне, Вене, Берлине, Амстердаме. Этот период длился несколько лет. Заработки юного Сэмми помогали родителям. Затем семья Решевского из Польши переехала в США. Материально дела поправились, и родители решили дать ему профессиональное образование. После перерыва в несколько лет Решевский вернулся к игре, но выступал в турнирах редко, основное время уделял работе.

Тем не менее благодаря огромному таланту он в 30—50-е годы входил в число сильнейших шахматистов мира, был претендентом на чемпионский титул. А первым шахматистом, который стал международным гроссмейстером, не достигнув совершеннолетия, был знаменитый американский чемпион Роберт Фишер. В 1958 году, когда ему было 15 лет и 6 месяцев, он вошел в первую шестерку победителей межзонального турнира, став претендентом на звание чемпиона мира. А заодно и гроссмейстером. Рекордное достижение Фишера, который в 1972 году стал чемпионом мира, держалось долго. Лишь через 13 лет его превзошла венгерка Юдит Полгар, ставшая гроссмейстером в возрасте 15 лет 4 месяцев. Следующим рекордсменом был венгр Петер Леко — 14 лет 4 месяца. Но это достижение вскоре было побито. Француз Этьен Бакро получил гроссмейстерский титул в возрасте 14 лет 2 месяцев, украинец Руслан Пономарев, ставший вскоре чемпионом мира ФИДЕ, — в 14 лет 7 дней. Теймур Раджабов из Баку — в 14 лет 14 дней. Затем последовали новые рекорды. Бу Сянчжи из Китая сумел стать гроссмейстером, когда ему исполнилось 13 лет и 10 месяцев. Наконец, рекорд, который 3,5 года назад установил украинский мальчик Сергей Карякин — 12 лет 7 месяцев. Этому достижению, возможно, суждена долгая жизнь. Но, посмотрим, не отыщется ли еще более поразительное дарование!

Все обладатели рекордов входят в число сильнейших гроссмейстеров.

АФОРИЗМЫ

Начальник — человек, который приходит на работу вовремя в тот день, когда вы опаздываете, и опаздывает в те дни, когда вы приходите вовремя.

***

Старый друг лучше новых двух, а новая подруга — лучше старых двух.

***

Дурак никогда не заходит в тупик, потому что там полно умных.

***

Соседи — люди, знающие о нас больше нас самих.

***

Если вам изменяет память, радуйтесь, что не жена.

***

Умный человек найдет выход из любого сложного положения. Мудрый в этом положении не окажется.

***

Сердце девушки легче всего открыть ключом от "Мерседеса".

***

Умные — это те, кто зарабатывает своим умом, а мудрые — те, на кого эти умные работают.

***

Тот, у кого много денежных знаков, может не обращать внимания на дорожные.

***

Никогда не хватает времени, чтобы выполнить работу как надо, но на то, чтобы ее переделать, время находится всегда.

***

Заслуженный успех приходит к талантливым, остальные довольствуются незаслуженным.



СПОРТ

# *Хаванец схаваўся?*

**Чуткі аб тым, што чэшскі спецыяліст Ёзэф Хаванец можа ўзначаліць зборную Беларусі па футболе, хадзілі даўно.**

Усё пачалося з таго, што падчас выступлення перад студэнтамі ў Магілёве Аляксандр Лукашэнка абрынуўся з рэзкай крытыкай у адрас нацыянальнай зборнай. Тады ж кіраўнік дзяржавы сказаў, што быццам бы пачаліся перамовы з чэшскім спецыялістам, які меў вопыт працы са зборнай Чэхіі. Журналісты вырашылі, што размова ідзе менавіта пра Хаванца. Аднак сам чэх ніяк не каменціраваў чуткі. У лістападзе мінулага года Хаванец сказаў, што мае дзейсны кантракт з футбольным клубам "Кубань" і таму проста не мае права весці перамовы з кім іншым. Кантракт чэха з краснадарскай камандай скончыўся 31 снежня 2005 года. Думалася, што сітуацыя адразу праясніцца. Аднак месца былога трэнера беларускай зборнай Анатоля Байдачнага заняў яго памочнік Уладзімір Курненін.

Тым часам сам Хаванец пакуль не вызначыўся з месцам сваёй працы. Зараз ён разам з сям'ёй адпачывае ў гарах. І, калі верыць інфармацыі, якую маюць чэшскія журналісты, то Хаванцу прапанаваны пост прэзідэнта футбольнага клуба "Спарта". Таму пакуль невядома, што выбера чэх — незнаёмую Беларусь ці родную Чэхію.

**Антон ВІТАЛЬЕЎ.**

# Браво, Наталья!

*Международная федерация по велоспорту опубликовала итоговый рейтинг спортсменов (команд) за 2005 год. В число ста сильнейших в отдельных дисциплинах вошли и белорусские атлеты. В индивидуальной гонке преследования у мужчин Александр Лисовский и Виктор Репинский занимают 28-е место, Дмитрий Смирнов — 50-е.*



В гонке по очкам Александр Павлинкович находится на 48-м месте, Александр Лисовский — 71-й.

В скрэтче лучшим среди белорусов — Анатолий Чебурко. Он расположился на 46-м месте, Александр Лисовский и Дмитрий Смирнов — на 67-м.

В командной гонке преследования Беларусь занимает 16-ю позицию.

У женщин лучшей в гите на 500 метров стала белоруска Наталья Цилинская. Она же обосновалась на первой строке и в спринте. А вот в кейрине она занимает лишь четвертую позицию.

В гонке по очкам Татьяна Шаракова и Анна Толконица расположились на 43-м месте, в скрэтче Татьяна Шаракова и Елена Ситько — 36-е, в индивидуальной гонке преследования — Татьяна Шаракова и Елена Ситько — 40-е.

В индивидуальном зачете по велосипедному спорту (шоссе) в Евротуре Бронислав Самойлов — 35-й, Александр Усов — 49-й. В командном зачете белорусская дружина находится на 13-м месте.

У женщин в индивидуальном зачете Зинаида Стагурская занимает 43-ю позицию, Ольга Гаева — 74-ю. В командном зачете Беларусь 18-я.

**Игорь КОПЫЛОВ.**

ЧУЛІ?

# *Домаш працаўладкаваўся*

**Як перадало Радыё Свабода, адзін з кандыдатаў у прэзідэнты на мінулых выбарах Сямён Домаш знаёміцца з вытворчасцю Гродзенскага гарбарнага завода, дырэктарам якога прызначаны. Пра палітыку Сямён Домаш гаварыць дмаўляецца: кажа, што ёй больш не займаецца.**

Н*агадаем, што на мінулых прэзідэнцкіх выбарах ён быў адным з кандыдатаў у прэзідэнты ад аб'яднанай апазіцыі. Ягоную кандыдатуру падтрымліваў незарэгістраваны палітычны рух "Рэгіянальная Беларусь", структуры якога дзейнічалі практычна ва ўсіх рэгіёнах краіны. Перад самымі выбарамі, згодна з ранейшымі дамоўленасцямі ў межах аб'яднанай апазіцыі*, Домаш зняў сваю кандыдатуру на карысць адзінага кандыдата — Уладзіміра Ганчарыка.

Падчас выбарчай кампаніі 2001-га Домаш патрапіў у шпіталь, пазней яму зрабілі аперацыю ў Кракаве. Потым некаторы час працаваў у камерцыйных структурах, затым доўгі час быў без працы. Некаторыя палітыкі да нядаўняга часу сцвярджалі, што каб адзіным кандыдатам у 2001-м быў абраны Домаш, то вынікі выбараў былі б іншымі.

А я мяркую, што яны былі б яшчэ больш горшымі. Аб гэтым, на мой погляд, сведчыць новы паварот у жыцці С.Домаша. Ён мог бы сёння быць прэтэндэнтам нумар адзін на прэзідэнцкую пасаду, але яшчэ ў 2001 годзе стала вядома, што "не па Сеньке шапка".

**Алена НОВІКАВА.**

НОВИНКИ

# *Литературный дебют экс-директора «Ляписов»*

**Бывший директор группы "Ляпис Трубецкой" Александр Зару выпустил свою первую книжку "Для взрослых детей". В нее вошла дюжина стихов, написанных им за последние несколько лет.**

Александр Зару входил в состав "ляписовского" менеджмента в 1999—2001 годах, известен как преуспевающий белорусский бизнесмен и активный участник организованного Михалком и компанией движения "Дети Солнца". Поэзией он увлекается давно, однако никогда не относился к своему творчеству особенно серьезно.

*"Писал я обычно на каких-то клочках бумаги, которые имели обыкновение теряться,* — рассказывает автор. — *Иногда стихи записывали друзья и читали своим детям. Те просили еще. И так постепенно мне все же пришлось какую-то часть своих творений занести в компьютер, а потом, по предложению тех же друзей, и выпустить в виде книжки".*

В произведениях Александра присутствуют не только чисто детские сюжеты про коровок, кошек, птичек и слоников, но и, скажем, история желтого трамвая, которому очень грустно среди машин. *"Я не пишу стихи для какой-то определенной аудитории — просто именно такое восприятие реальности мне близко. Возможно, во мне говорит ребенок, которым я был, надо признаться, довольно долго",* — считает Зару.

Иллюстрировала книгу художница Вера Лобко, арт-директор портала Diva.by. Интерес к поэтическому сборнику проявили прежде всего московские издатели, и пробный тираж уже поступил в продажу в российской столице. Белорусские же поклонники "Детей Солнца" (и просто дети!) пока что могут прочитать книгу на официальном сайте www.lyapis.com.

**Дмитрий БЕЗКОРОВАЙНЫЙ.**

ТОСТ ОТ «ПАРАДОКСА»

Не живи уныло; не жалей, что было; не гадай, что будет; береги, что есть!

***

Мы пьем за тех, кому судьбой назначено
Остаться неизвестными солдатами.
Вы в книгах были "цинковыми мальчиками",
А наяву — железными ребятами!

***

Была ночь. Тишина и луна... Были он и она. Он сказал "да". Она сказала "нет".

Прошли годы. Была ночь. Тишина и луна... Были он и она. Она сказала "да". Но не те уже были года...

Так выпьем же за то, чтобы все в жизни делалось своевременно!

***

Мужчина рассказывает врачу, что он уже двадцать лет живет с женой, а детей у них нет.

— Но я советовал вашей жене поехать на курорт, — говорит врач.

— Были мы и там, целых два месяца, — отвечает муж.

— Позвольте, но вас-то я туда не посылал!

Выпьем же за точное выполнение медицинских предписаний!

**Адрас рэдакцыі:**
**220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а.**
**Прыёмная: тэл./факс (017) 206-68-71.**
**Тэл./факс рэкламнага аддзела: 206-69-04, 206-69-06.**
**E-mail : nv@promedia.by**
**http://nv.promedia.by**
**Індэкс 63222**

**Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф СЯРЭДЗІЧ**



Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №246 ад 10 кастрычніка 1996 г. (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.).
ФДУП "Смоленский полиграфический Комбинат", 214020, г.Смаленск, вул. Смальянінава, д.1.
Падпісаны ў друк 15.01.2006 у 12.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж: 27000 экз. Заказ №13381.